НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 7 (796) 20 лютага 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## У Мінску арыштаваны неанацыст Цясак

Адбылася бойка з ужываннем зброі. Старонка 3.



## Чалавецтва і астэроіды:

хто ўдарыць першы? Старонка 2, 9.



# Іржавая гайка

«Калі трэба адкруціць іржавую гайку, самае цяжкае — **з мёртвага пункта** яе зварухнуць…» **Старонка 4.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Рэпартаж**

### Аднапавярховая Беларусь

Эксперыментальны катэджавы пасёлак на ўскрайку Гродна. **Старонка 5.**



**Канфлікт**

### «А не прогнулся ли ты под режим, сынок?»

Некаторыя пераканалі, што двойчы два — пяць. **Старонка 7.**



**Пошта**

### Хто не знае, якая цяжкая праца ў няні

Маю 1 мільён 315 тысячаў пенсіі. Ліст з Чэрыкава. **Старонка 12.**



**Грамадства**

### «Галоўнае — мець добрую стрэсаўстойлівасць»

Рэпартаж з прыватнай ветэрынарнай клінікі. **Старонка 15.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Чалавецтва і астэроіды:

## калі навучацца людзі збіваць іх і як?

Раніцай 30 чэрвеня 1908 многія жыхары невялікіх селішчаў, раскіданых ля ракі Падкаменная Тунгуска, прачнуліся ад незвычайнага грукату. Тыя, хто паспеў выскачыць на вуліцу, былі агаломшаныя дзіўным відовішчам: неба на поўначы раздвалася і высока над лесам з'явіўся агонь, які ахапіў амаль палову неба. Грукат нарастаў, узняўся моцны вецер, а праз некаторы час з'явілася «другое Сонца», ад бляску якога сляпіла вочы. Праз пэўны час з боку ўспышкі прыйшла ўдарная хваля, якая павалiла лес на велізарнай плошчы і выбіла шыбы ў вокнах за 200 кіламетраў. Двое паляўнічых за 30 кіламетраў ад эпіцэнтру ледзьве здолелі выбрацца з паваленага палаючага лесу.

Гэтая падзея ўвайшла ў гісторыю як Тунгускі феномен — адна з самых разбуральных катастроф, звязаная з сутыкненнем Зямлі з касмічным прышэльцам — метэарытам. Пасля вучоныя накіруюць безліч экспедыцый у нетры сібірскай тайгі, зробяць аналіз знойдзенага метэарытнага пылу, паведамяць аб тым, што метэарыт насамрэч апынуўся кавалкам камета, але большасць у першую чаргу цікавіць адно: ці сапраўды Зямлі пагражаюць вялізныя касмічныя камяні?



«Свежанькі» кратар у Арызоне (ЗША). Яму ўсяго 50 тысяч гадоў. Памерам ён 1,1 км у дыяметры. Утварыў яго метэарыт, які даляцеў да зямлі 50-метровым.

### Можа быць і горш

Падзея 15 лютага ў Чэлябінскай вобласці была меншага маштабу, чым на Тунгусцы, але зноў прымусіла чалавецтва хвалявацца. У адно імгненне праз выбух метэарыта пацярпелі 1500 чалавек, былі пашкоджаны будынкі. Дык пагроза з космасу — рэальнасць?

Безумоўна, у Сонечнай сістэме поўна буйных астэроідаў, многія з якіх могуць уяўляць пэўную небяспеку для нашай планеты. І калі ў Чэлябінску мы сутыкнуліся з прыблізна 15-метровым целам, то сустрэча з астэроідам памерам з кіламетр будзе для Зямлі фатальнай: пасля ўдару ў зямную паверхню ў паветра будзе выкінута мноства пылу і попелу, якія на некалькі год закрыюць для нас Сонца. Без сонечнага святла і цяпла загіне большасць раслін, а за імі — жывёльны свет і чалавек. Калі ж такое цела ўпадзе ў акіян, магутнае цунамі пракоціцца праз кантыненты, знішчаючы ўсё на сваім шляху.

Каб мець магчымасць прадказваць такія небяспечныя падзеі, астраномы ствараюць цэлыя сеткі аўтаматычных тэлескопаў, у якіх мэта адна — пастаянна фатаграфаваць усё неба, адкрываць новыя нябесныя каменныя глыбы, дакладна разлічваць іх арбіты і адказваць на пытанне: ці не сутыкнуцца яны з Зямлёй? І гэтыя пошукі даюць свой плён: дастаткова адкрыць любую жоўтую газету, і вы даведаецеся, колькі метэарытных «канцоў свету» нас чакае ў бліжэйшы час.



**Ацэнкі НАСА**

Паводле ацэнак НАСА, дыяметр метэарыта складаў каля 17 метраў, а маса — прыкладна 10 тысяч тон. Метэарыт увайшоў у зямную атмасферу на хуткасці не менш за 64 000 кіламетраў за гадзіну і выбухнуў на вышыні ад 19 да 24 кіламетраў. Магутнасць выбуху склала, паводле ацэнак NASA, ад 300 да 500 кілатон.

Паводле ацэнак навукоўцаў НАСА, падзенне метэарыта памерам з Чэлябінскі здараецца раз на 100 гадоў. Падзенне нябеснага цела памерам з Тунгускі метэарыт — раз на 200–1000 гадоў. А вось катастрафічны ўдар у зямлю астэроіда тыпу таго, кратэр якога выяўлены на мексіканскім паўвостраве Юкатан — раз на 50–100 мільёнаў гадоў.

### Турынская шкала

Каб неяк класіфікаваць нябесных падарожнікаў па ўзроўні небяспекі для Зямлі, у 1999 годзе на канферэнцыі ў Турыне астраномамі была прынятая Турынская шкала астэроіднай небяспекі. Гэтая шкала падобная да шкалы Рыхтэра для ацэнкі наступстваў землятруса: кожнаму астэроіду прысвойваецца бал небяспекі ад 0 да 10. Нуль — гэта калі верагоднасць сутыкнення адсутнічае, дзесяць — сутыкненне абдудзецца і прывядзе да глабальнай катастрофы. Гэтая шкала была створаная і для прадухілення панічных настрояў сярод насельніцтва — было вырашана не паведамляць у прэсу пра астэроіды, якія маюць нулявы ці першы бал пагрозы.

На шчасце, на дадзены момант нам невядома ніводнага астэроіда, які б меў бал 2 ці вышэй. Але цікавая рэч — колькасць палохаючых публікацый зусім не знізілася і нам па-ранейшаму расказваюць пра мноства касмічных прышэльцаў, гатовых забіць нас у бліжэйшы час. Крыніцай такіх чутак хутчэй за ўсё з'яўляюцца... самі астраномы.

Працяг на старонцы 9.

**Астэроіды: жахлівая перспектыва**

Тры дзясяткі гадоў таму геолагі выявілі ў Мексіцы, на паўвостраве Юкатан, гіганцкае круглае геалагічнае ўтварэнне. Камп'ютарны аналіз не пакінуў сумневаў: гэта кратар дыяметрам каля 180 кіламетраў. Частка яго знаходзіцца на сушы, а частка — пад вадой.

Навукоўцы вылічылі: утварыўся ён каля 65 мільёнаў гадоў назад у выніку ўдару нябеснага цела памерам каля 10 км. Менавіта тады ўмомант вымерлі дыназаўры. А вось кракадзілы і птушкі захаваліся.

Якія былі наступствы таго падзення? Тут вучоныя пакуль не прыйшлі да адзінай думкі. Ясна, што такі ўдар, мацнейшы за выбух усіх атамных бомбаў планеты, выклікаў мегацунамі — вышынёю большай за кіламетр, глабальныя землятрусы і вывяржэнні вулканаў, масавыя лясныя пажары. Зямлю тады зацягнула сажай і пылам, што зменшыла пранікненне сонечных прамянёў.

Кратараў памеру з Юкатанскі ў свеце выяўлена 7, кратараў памеру ад 20 да 100 кіламетраў — 34. Гэта азначае, што астэроіды прабіваюць зямную паверхню рэгулярна.

У выпадку ўдару вялікага астэроіда сёння людзі, імаверна, загінулі б усе.

Усё часцей навукоўцы і дзяржаўныя дзеячы ставяць пытанне пра стварэнне сістэмы выяўлення небяспечных астэроідаў, а з часам і зброі, здольнай іх знішчаць на падлёце да Зямлі. Пакуль, аднак, навука на тое нядольная.

Сяргей Гезгала

## Сцісла

**Зараз не пратараняць**

Для рэзідэнцыі Лукашэнкі купілі некалькі камплектаў супрацьтаранных дарожных блакатараў. Аж у Ізраілі! Блакатары — гэта такія сталёвыя высоўныя слупы. Задача блакатараў — спыніць машыну з тэрарыстамі або выбухоўкай, паведамілі «Известия».

**Палац прадалі за $200 тысяч**

Палацава-паркавы комплекс Савейкі ў Ляхавіцкім раёне (Брэсцкая вобласць) пайшоў з малатка. Яго прадалі на аўкцыёне за 200 тысяч даляраў. Інвестар хоча ў гэтай былой шляхецкай сядзібе збудаваць гатэль.

**42 тысячы картаў паляка**

выдадзена грамадзянам Беларусі. Такія звесткі распаўсюдзіў польскі МЗС. Усяго палякамі ў Беларусі на апошнім перапісе запісаліся каля 300 тысяч чалавек. Але «карты паляка» выбляюць сабе і беларусы, каб лягчэй афармляць візы. Дарэчы, прыкладна 2,5 тысячы чалавек з Беларусі штогод эмігруюць у Польшчу.

**Шарамет пераехаў у Кіеў**

Ён будзе весці праграму на ўкраінскім ТВі. Пра гэта паведаміў сайт «Беларускі партызан», які ён рэдагуе.

**Пошта на Hotmail зачыняецца**

Амерыканская кампанія Microsoft абвясціла пра закрыццё аднаго з найбуйнейшых у свеце паштовых сэрвісаў — Hotmail.com. Электронная пошта на Хотмэйле была адной з самых папулярных на пачатку 2000-х, але пасля саступіла Gmail-у.

СГ

## Прыватныя абвесткі

**ПАТРАБУЮЦЦА**

**Прыёмнаму пакою Цэнтра дзіцячай хірургіі** ў Мінску патрабуюцца медсёстры. Звяртацца праз тэл.292-39-41. Пр.Незалежнасці, д.64, 1-шы клінічны шпіталь, ДХЦ

**ВІНШАВАННІ**

**Віншуем Міхася Серафімавіча Шушкевіча** з 80-годдзем. Татачка і дзядуля, здароўя табе, радасці, вытрымкі, творчых поспехаў. З Днём народзінаў! Сям'я.

**Ад Рэдактара.**

Можа, не ўсе ведаюць, што гэта Міхась Шушкевіч напісаў знакамітую песню з рэпертуара «Песняроў» «Ты мне вясною прыснілася». Не ўсе ведаюць і тое, што сп.Шушкевіч (не блытаць з фізікам і палітыкам Станіславам Шушкевічам) — бацька Міланы Міхалевіч, жонка Алеся Міхалевіча, якой столькі прыйшлося перажыць з дваімі малымі дзецьмі пасля 2010 года.

Добрага Вам здароўя, спадар Шушкевіч!

## Самае чытанае на nn.by за 13—19 лютага

1 У Мінску арыштаваны расійскі неанацыст Цясак

2 Над Уралам выбухнуў супербалід

3 Анлайнеры, Будзіміры і п!д@р@сы

4 «Санта-Барбара» ў вёсцы Валодзькава

5 Франак Вячорка: Мая дзяўчына здавала мяне ў КДБ

6 «А не прогнулся ли ты под режим, сынок?»

7 Фотажабы пра Чэлябінск

8 Сабор Нотр-Дам падае ў суд на Femen

9 У фанацкім сектары раздзяваліся не толькі хлопцы, але і дзяўчаты

10 Топ-10 рамантычных месцаў Беларусі

# У Мінску арыштаваны расійскі неанацыст

Марцінкевічу (мянушка **Цясак**) пагражае да 10 гадоў турмы.

Арышт адбыўся яшчэ ў чацвер. Дзяніс Марцінкевіч паспеў напісаць у сацыяльных сетках, што знаходзіцца ў Партызанскім РУУС Мінска. «Шаўкі катаюць заявы», — зазначыў ён. «Шаўкамі» ультраправыя называюць антыфашыстаў.

Амаль тры дні ніхто не звяртаў увагу, што Цясак знаходзіцца пад вартай. Відаць, думалі, што абыдзецца банальным адміністрацыйным пакараннем. Аднак усё аказалася значна складаней.

Як паведаміла прадстаўніца Следчага камітэта Юлія Ганчарова, на расіяніна Марцінкевіча і двух беларусаў, ягоных спадарожнікаў, заведзена крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 КК — хуліганства з прымяненнем зброі. Артыкул прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі ад 2 да 5 гадоў альбо пазбаўленне волі ад 3 да 10 гадоў.

Цясак мае беларускія карані, пра гэта гаворыць нават ягонае прозвішча (старажытны шляхецкі род герба «Лебедзь»). Ён часта наведвае Мінск. Здымае відэаролікі пра бамжоў, хіпстараў ці людзей, што носяць на адзенні бел-чырвона-белы сцяг. Гэта вельмі спецыфічныя фільмы. З боку Цесака ідзе стандартная «дакалёбка», чаму ў вас такая прычоска? Многія, убачыўшы такога амбала, палохаюцца і пачынаюць гаварыць розную лухту. Ён здзекуецца з людзей, а пасля змяшчае гэта ў інтэрнэт.

Яшчэ апошні часам Марцінкевіч абвесціў сябе «змагаром з педафіламі». Цяжка сказаць колькі там было рэальнага, а колькі пазёрства і акцёрства.

Цясак таксама ладзіць платныя семінары, дзе «вучыць моладзь жыць». Расказвае пра свае жыццёвыя арыенціры, як змагацца з педафіламі, здымаць дзяўчат. І задно — пра нацыянал-сацыялізм, як ён яго разумее, пра расавую чысціню і пагрозу іншародцаў. Праводзіў такі і ў Мінску. Цяпер удзельнікі таго семінара ставяць «Укантакце» на аватаркі фоткі, разам з Цесаком.

Яшчэ адной мэтай візіту ў Беларусь было наведванне шпіталя. Цясак хацеў зрабіць аперацыю на вочы ў клініцы «Новы зрок» на вуліцы Клумава (станцыя метро «Трактарны завод»). У яго зрок мінус сем.

Менавіта там і адбылася сутычка. Мінскія антыфашысты падрыхтаваліся да прыезда Цесака. Высачылі яго. І абстралялі з вадзяных пісталетаў мачой. Патлумачылі свой учынак тым, што ў калоніі людзі, якіх публічна аблілі мачой, маюць нізкі статус. Цясак у адказ на гэта выцягнуў пісталет. Праўда, газавы. Затое ягоны сябар пырнуў антыфашыста нажом. Ахова клінікі выклікала міліцыю.

Пра пісталет «Удар» Марцінкевіч таксама згадваў «Укантакце». Казаў, што адабраў яго ў аднаго з піцерскіх антыфашыстаў. «Калі ў Маскве мой набор досыць пасрэдны, то тут я практычна ўзброены да зубоў», — зазначаў ён.

У Мінску ёсць шмат антыфашыстаў, многія з іх гуртуюцца каля футбольнага клуба «Партызан». Але доказаў таго, што ў патасоўку з Цесаком уступілі менавіта фанаты — няма.

Відэа бойкі з'явілася ў інтэрнэце, але там цяжка разабраца, хто атакуе, а хто бароніцца.

Паведамляецца, што адзін з затрыманых беларусаў — К., вядомы пад мянушкай Малюта. Ён быў яшчэ некалі ў беларускім РНЕ, даўно знаёмы з Цесаком.

Цяпер пракурор мусіць вызначыць, ці выпускаць неанацыста пад падпіску, ці пакідаць да суда пад вартай. Маюць права пакінуць пад следствам на дзесяць сутак.

Дарэчы, Цясак неаднаразова публічна захапляўся палітыкай Аляксандра Лукашэнкі. Нават некалі казаў, што ў Беларусі ў турмы «саджаюць толькі прадажных лібералаў».

Відавочна, што справа Марцінкевіча будзе вырашацца на высокім узроўні. Калі Цясак сыдзе ад адказнасці, расійскія неанацысты могуць пачаць больш актыўнае пранікненне ў асяродкі беларускай моладзі.

**Зміцер Панкавец, Сяргей Макарэвіч**

У Мінску каля будынку КДБ.




**Цясак**

Максім Марцінкевіч (мянушка — Цясак) нарадзіўся ў 1984. Вучыўся ў будаўнічым універсітэце, але быў выключаны. Быў сябрам скінхэдскай арганізацыі «Руская мэта» і так званай Народнай нацыянальнай партыі. Потым стварыў сваю арганізацыю «Фармат-18» (Лічбай 18 неанацыст шыфруюць імя Адольфа Гітлера. Літары А і Н адпавядаюць лічбам 1 і 8). Праславіўся сваімі расісцкімі выказваннямі.

Мянушку Цясак атрымаў праз любоў да халоднай зброі.

Тры з паловай года адбыў у Расіі ў турме за «Распальванне нянавісці па нацыянальнай ці рэлігійнай прыкмеце». Зняў пастановачны ролікі, у якім вешаў і разбіраў «таджыка», але аказалася, што гэта была проста ялавічына.

## Пацярпелы ў бойцы з Цесаком застаецца ў рэанімацыі



Скрыншот з відэа. Пацярпелы ў бойцы абведзены.

Але **небяспекі** для жыцця ўжо **няма**.

Вядома, што падчас бойкі з Цесаком пацярпеў 30-гадовы К. Ён атрымаў некалькі ўдараў нажом. Звязацца з ім пакуль няма магчымасці. Тэлефон разбіўся падчас інцыдэнту.

З «НН» згадзіўся паразмаўляць адзін з сяброў пацярпелага. «Цесака і Малюту аблілі мачой. Пасля чаго двое выхапілі нажы, а ў Цесака быў газавы пісталет «Удар». Траўматычны пісталет страляе гучна, а «Удар» толькі распыляе газ».

У інтэрнэце з'яўляюцца фантазіі, што нападаючых на Максіма Марцінкевіча ледзь не 15 чалавек. «Гэта няпраўда. Было чацвёра. Гэта добра бачна на відэа».

Кажа, што пацярпелага адразу адвезлі ў бальніцу, у міліцыю яго не вазілі. «Была аперацыя, нажавыя раненні аказаліся вельмі глыбокімі. Цяпер ён у рэанімацыі пад наглядам дактароў. Ставяць кропельніцы, мяняюць швы».

Хто такі гэты пацярпелы? «Звычайны адэкватны хлопец, які не церпіць неанацызму, тых ідэй, якія Цесак прапагандуе на семінарах».

Напрыканцы цікаўлюся, ці не баяцца антыфашысты, што абвінавачанымі зробяць іх, а не Цесака з сябрамі. «Хіба толькі за мачу, зброі ў іх не было».

**ЗП**

## Сціс ла

### Беларусь пакідае сабе 25% акцый МАЗа

Астатняя доля ўвойдзе ў холдынг «Росбелаўта» разам з часткай акцый КАМАЗа. Умовы аб'яднання беларускага МАЗа і расійскага КАМАЗа ў холдынг «Росбелаўта» ўзгоднены, заявіў старшыня Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Беларусі Георгій Кузняцоў. Па словах Кузняцова, у холдынг увойдзе 75% МАЗа. Рэшта — блакуючы пакет — застанецца ва ўласнасці Беларусі.

### Халіп дазволілі з'ездзіць да мужа

«Калі я даведалася, што прадстаўніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра такі запрасілі на форум у Вену, мне стала зразумела, што і маю просьбу на выезд задаволяць», — патлумачыла журналістка.

Праўда, у Партызанскім РУУС, куды Халіп хадзіць адзначацца, яе сустрэлі нервова. Асабліва, калі даведаліся, што з датай паездкі яна яшчэ не вызначылася.

**Сямён Печанко, ЯМ**

## Фотафакт



**Уладзімір Някляеў узнагароджвае Віталя Каратыша, пераможца у намінацыі «Палітыка».**

«Малады фронт» уручыў штогадовы прэміі. У намінацыі «Беларусізацыя» перамагла Кацярына Кібальчыч. За праект «Мова ці кава». У намінацыі «Pro-Belarus» — былы пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан. «Палітыка» — Віталь Каратыш, «Культура» — музыка Сеня Shane, «Журналістыка» — Андрэй Пачобут, «Грамадская чыннасць» — стваральнік сайта «Мае сэнс» Дзяніс Кандратовіч, «Спорт» — плыўчыха Аляксандра Герасіменя, «Змагар года» — палітвязні.



## Дзе варта быць

## Вечарына памяці Грыбкова

22 лютага (пятніца) а 18-й на сядзібе БНФ адбудзецца Марафон Салідарнасці з палітвязнямі, прысвечаны экс-палітвязню, удзельніку Плошчы Арцёму Грыбкову (1989–2012). Хлопец трагічна загінуў у снежні. Будуць збіраць грошы ягонай сям'і (засталася цяжарная жонка). Адрас: Мінск: вул. Чарнышэўскага, 3.

# Іржавая гайка

За скандальным абяцаннем уладальніка Tut.by Юрыя Зісера пасадзіць у турму рэдактарку «Хартыі-97» Наталлю Радзіну не былі заўважаныя словы прадстаўніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра Уладзіміра Рабаволава.

«Калі трэба адкруціць іржавую гайку, самае цяжкае — з мёртвага пункта яе зрушыць. Пазней яна лягчэй круцішча...», — так сказаў прадстаўнік афіцыйнага Мінска на АБСЕшнай канферэнцыі ў Вене па развіцці інтэрнэту.

Фактычна, Рабаволаў намякаў пра магчымасць новай лібералізацыі. Калі ўсё ж знойдуцца сілы зварухнуць «гайку».

«Я мяркую, што, па меры лібералізацыі інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій (ІКТ), у Беларусі ступень дзяржаўнага рэгулявання будзе скарачацца, а роля грамадзянскай супольнасці і бізнэс-супольнасці будзе павышацца», — сказаў Рабаволаў. Пакуль жа «Белтэлекам» валодае поўнай манаполіяй па прадастаўленні інтэрнэт-трафіка.

Наталля Радзіна не паверыла абяцанням прадстаўніка ААЦ: «У іх нават геральдыка, як у КДБ, а былы іх начальнік сёння ўзначальвае Камітэт дзяржбяспекі. Дзе ваша «свабода выказвання», калі ў краіне няма незалежнага тэлебачання, радыё і амаль не засталося незалежных газет? Адказаць вам няма чаго. Таму ці не прыязджайце сюды, ці маўчыце і не маніце так нахабна і адкрыта»

**Аператыўна-аналітычны цэнтр**

Дзяржаўны орган, які займаецца рэгуляваннем інтэрнэту. Узначальвае Сяргей Шпягун. Адна з найбольш закрытых спецслужб краіны.

«Пазіцыі бакоў зразумелыя. Гайку закруціць, потым трохі адціснуць — вось і будзе бачнасць палітычных рэформаў, — мяркуе шэф-рэдактар «Народнай волі» Святлана Калінкіна. — Гэта з аднаго боку. З іншага: «Падступныя хлусы! Ні аднаму слову верыць нельга! Далоў!» Усё правільна, справядліва, не паспрачаешся. Але вельмі спрэчна, на чым баку будуць сімпатыі. Таму што ў беларускай улады дрэнненькі, але адказ на пытанне «Што далей?» ёсць. А ў Наталлі Радзінай, якая ў дадзеным выпадку выказвае пазіцыю беларускай апазіцыйна-структураванай большасці, — не».



Наталля Радзіна ўжо два гады вымушаная жыць у эміграцыі. Цяпер яна рэдагуе «Хартыю-97» з Варшавы.

Дыялогу ў Вене не выйшла. Наталля Радзіна абвінаваціла Юрыя Зісера ў карупцыі. «Чаму на гэтую канферэнцыю МЗС парэкамендаваў запрасіць Юрыя Зісера? Таму што ён валодае найбуйнейшай хостынгавай кампаніяй у Беларусі і ў выніку гэтага ўказа атрымаў звышпрыбытак. Адбылася звычайная карупцыйная здзелка — улады з канкрэтным бізнэсмэнам».

Зісер на гэта прыгразіў падаць у суд на Радзіну. У аўстрыйскі, а не беларускі. Але пакуль не падаў — думае.

«Відавочна, што любы дыялог з грамадскасцю і Еўропай змушае ўладу лавіраваць, рабіць хоць маленькія саступкі», — напісаў на Mediakritika.by аналітык Аляксандр Класкоўскі.

Не трэба разглядаць словы Рабаволава як прадвесце новай «адлігі». Улада не прапаноўвае дыялог незалежнаму грамадству. Ды і наўрад ці прапануе. Нават у пытаннях інтэрнэту. Але рэдкія магчымасці для размовы здараюцца.

ЗП



Уладзімір Рабаволаў.

**«Калі трэба адкруціць іржавую гайку, самае цяжкае — з мёртвага пункта яе зрушыць. Пасля яна лягчэй круцішча...»**

---

**Каментар**

## «Карнікаў інтэрнэту» ў Еўропу? Ну і добра!

Сайт «Хартыя-97» рэзка скрытыкаваў рашэнне АБСЕ запрасіць у Вену на канферэнцыю «Інтэрнэт-2013: выбудоўванне палітыкі па распаўсюджванні свабоды СМІ» першага намесніка начальніка Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта Уладзіміра Рабаволава.

«Галоўны карнік беларускага інтэрнэту едзе на канферэнцыю АБСЕ», — гучыць загаловак «Хартыі».

Рэдактарка сайта Наталля Радзіна кажа: «У 2010 годзе быў прыняты ўказ Лукашэнкі «Аб цэнзуры інтэрнэту», які абавязаў правайдараў весці рэгістрацыю карыстальнікаў і захоўваць інфармацыю пра аказаныя ім паслугі, а гаспадароў інтэрнэт-кавярняў — правяраць пашпарты кліентаў. Кантроль інтэрнэту быў даручаны Аператыўна-аналітычнаму цэнтру (ААЦ) пры Лукашэнку», — піша Радзіна.

Сапраўды былі выпадкі блакавання незалежных сайтаў (у тым ліку «Нашай Нівы»), а таксама Фэйсбука, Укантакце, пошты ў дні выбараў і масавых пратэстаў, але здаралася гэта і да прыняцця дадзенага ўказа.

Цяпер да другога аспекта дадзенага артыкула. Радзіна напрыканцы задаецца пытаннем: «АБСЕ хочацца спытаць: як можна прадастаўляць пляцоўку карнікам?»

Паўстае даўняе складанае пытанне, ці ёсць патрэба і сэнс запрашаць беларускіх чыноўнікаў на міжнародныя сустрэчы. «Хартыя» адназначна адказвае — не.

Тое самае было з вучобай беларускіх памежнікаў і міліцыянтаў у Нямеччыне. Іншымі візітамі чыноўнікаў у Еўропу. Столькі шуму паднялі вакол вучобы беларускіх сілавікоў у Нямеччыне.

Паднялі з падачы нямецкай апазіцыі (сацыял-дэмакратаў і зялёных), якія мелі свае мэты. Але без думкі пра рэальны нацыянальны інтарэс беларусаў.

«Хартыя» матывуе сваю пазіцыю тым, што чыноўнікі пускаюць пыл у вочы еўрапейцам. Наталля, няўжо Вы лічыце прадстаўнікоў Захаду настолькі наіўнымі, што яны адразу купяцца на словы прадстаўнікоў афіцыйнага Мінска? Няўжо Вы лічыце грамадскасць Захаду настолькі наіўнай, што яна паверыць аргументам чыноўнікаў беднай, ізаляванай дзяржавы, якую дурныя рашэнні кіраўніцтва ператварылі ў васала Расіі?

Няўжо Вы лічыце, што камусьці там задураць галаву гэтыя афіцэры з самымі нізкімі на ўсю Еўропу заробкамі? Тым больш, калі побач будзе прадстаўніца «Хартыі» са сваімі контраргументамі.

Якая ж карысць ад паездак, хай сабе і на АБСЕшную гаварыльню? Перш за ўсё ў такіх паездках чыноўнікі вучацца. Ясна, што не забаронам і рэпрэсіям. Гэта яны і без паездак умеюць.

Тое самае і са спецназаўцамі. Думаеце, яны не ўмеюць разганяць мітынгоўцаў і саджаць іх у аўтазакі? Гэтае майстэрства адшліфаванае ў іх да дасканаласці. У паездках, сустракаючыся з еўрапейскімі калегамі, яны акурат бачаць іншыя прыклады арганізацыі грамадства, іншую логіку працы спецслужбаў, магчымасць дзейнічаць цывілізавана, у рамках закона. Таму любыя такія сустрэчы ідуць на карысць Беларусі як дзяржаве і нацыі.

Тое самае тычыцца не толькі чыноўнікаў і спецназаўцаў, але і настаўнікаў, дактароў, спартоўцаў, вайскоўцаў. Хай ездзяць у Еўропу людзі з ААЦ. Хай ездзяць у Еўропу памежнікі. Хай ездзяць у Еўропу спецназаўцы. Кепскаму яны там не навучацца.

**Зміцер Панкавец**

---

**In memoriam**

## Васіль Старавойтаў

Ардэнаносец-старшыня калгаса, **пасля — палітвязень.**

На 89-ым годзе пайшоў з жыцця былы старшыня легендарнага калгаса «Світанак» Васіль Старавойтаў.

«Гэта страта для ўсёй Беларусі, — кажа лідар АГП Анатоль Лябедзька (менавіта ў гэтую партыю ўваходзіў Старавойтаў). — Краіна страціла Асобу, Легенду, Рэфарматара. Васіль Канстанцінавіч не толькі двойчы Герой Працы, гэта Герой нашага часу. Чалавек, што не захацеў падладжвацца пад кіраўніка, што не захацеў быць сярод прыдворнай чэлядзі. У яго заўсёды быў свой погляд на навакольны свет, свая пазіцыя. Мы шукаем герояў у мінулым, за межамі краіны. А яны побач з намі».

Васіль Старавойтаў нарадзіўся у 1924 у вёсцы Барок Бялыніцкага раёна. Падчас вайны пайшоў у партызаны, пазней быў памочнікам начальніка штаба 600-га партызанскага атрада. Працаваў на камсамольскай і партыйнай працы.

У 1968–1997 — старшыня калгаса «Світанак» імя К. Арлоўскага. Пасля развалу савецкай сістэмы перавёў працы свае аграгаспадаркі на рынкавыя асновы, захаваў яе прыбытковай. У 1994 выступіў з крытыкай Лукашэнкі, не падтрымаў яго кандыдатуру на выбарах. Ведаў яго яшчэ па саўгасе «Гарадзец» і нізка ацэньваў яго як менеджара. У кастрычніку 1997 года быў адхілены ад працы і арыштаваны.

Абвінавачваўся ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў, эканамічных злачынствах, арганізацыі забойства кіраўніка магілёўскага Дзяржкантролю Мікалуцкага. Правёў за кратамі амаль паўтара года.

У СІЗА ён перанёс два сардэчныя прыступы, мікраінсульт, пасля якога не мог гаварыць, практычна страціў зрок. Пасля вызвалення з месцаў зняволення вярнуўся дадому, у вёску Мышкавічы Магілёўскай вобласці.



# Аднапавярховая Беларусь

Карэспандэнт наведаў **эксперыментальны катэджавы** пасёлак на ўскрайку Гродна.

У дзяржаўнай жыллёвай палітыцы вызначыўся калі не разварот, то, прынамсі, віраж. Эксперымент па стварэнні пасёлка з драўляных і панэльных каркасных катэджаў прызнаны ўдалым, таму масавае будаўніцтва прыватных адна- і двухпавярховых дамоў можа пачацца па ўсёй краіне.



Разнастайнасцю тут і не пахне.

### Высокія лабісты

Адным з ініцыятараў праграмы называюць намесніка міністра архітэктуры і будаўніцтва Дзмітрыя Семянкевіча. Некалькі гадоў ён займаўся развіццём камун і гарадоў Венесуэлы, а цяпер шчыльна заняўся стварэннем катэджавай Беларусі. «Павінны быць створаныя ўсе ўмовы, каб чалавек не сам, па 5—7 гадоў, будаваў дом, а мог атрымаць пабудаваны індустрыйным спосабам, фактычна гатовы да пражывання камфортны дом за год», — тлумачыў ён у інтэрв'ю «Камсамольскай праўдзе».

Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч падчас нядаўняга візіту ў Гродна пацвердзіў: доля індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва ў агульным уводзе жылля ў Беларусі мусіць павялічыцца да 40%. Па ягоных словах, прадавацца будуць ужо гатовыя тыповыя катэджы. Чаргавікам гэтыя дамы будуць прапаноўвацца з правам пажыццёвага валодання зямельным участкам, а іншым беларусам — прадавацца праз аўкцыёны. Вярнуўшыся з Гродна, натхнёны Мясніковіч выступіў з прапановай: аднавіць выдачу валютных крэдытаў на будаўніцтва жылля. Гэта б дазволіла беларусам са стабільным заробкам паўдзельнічаць у стварэнні аднапавярховай Беларусі.

**Асноўныя тыпы дамоў у Ласосне**



**Драўляны каркасны дом агульнай плошчай 120 м².** На першым паверсе тамбур (2,6 м²), прыхожая (4,8 м²), кухня (9,3 м²), санвузел (2,8 м²) з душавой кабінкай, гасцёўня (34 м²). На другім — калідор (8,6 м²), санвузел (9,6 м²) з ваннай, тры жылыя пакоі (10,4 м², 13,8 м² і 15,4 м²) і балкон (4,5 м²). **Кошт — каля $70 тысяч.**



**Аднапавярховы панэльны дом агульнай плошчай 74 м².** Складаецца з гасцёўні (22,3 м²), дзвюх спальняў (13,7 м² і 14,7 м²), кухні-сталовай (9 м²), санвузла (4,7 м²) і калідора.

**Што такое каркасны дом?**

Гэта тэхналогія будаўніцтва, папулярная ў Заходняй Еўропе і Амерыцы ўжо некалькі стагоддзяў. Да галоўных перавагаў адносіцца таннасць. Квадратны метр базавай камплектацыі каштуе каля $450. Здзіўляе і хуткасць зборкі. «Дом-канструктар» вырастае за месяц. Сярод недахопаў — адносна нізкая цеплаёмістасць. Некаторыя матэрыялы, якія выкарыстоўваюцца ў каркасніках, могуць быць шкодныя для арганізма чалавека. Дый дамы, якія фактычна ўзлятаюць у паветра пры ўрагане, — гэта тыя самыя каркаснікі.

### Аграгарадок у межах горада

Эксперыментальны пасёлак знаходзіцца ў Ласосне-3, гэта прыгарад Гродна. З цэнтра горада на машыне ехаць каля 10 хвілін. Аднак пра існаванне пасёлка ведае мала хто. «Панэльны катэджны пасёлак? У прыгарадзе? Вы нешта блытаеце», — кажуць мясцовыя жыхары. Нарэшце знаходзіцца абазнаны чалавек: «Едзьце міма бальніцы, міма вайсковай часці, міма гаражоў. І там перад самым лесам пасёлак. Ні з чым не зблытаеце, ён як аграгарадок выглядае».

Мясніковіч паабяцаў за бюджэтныя грошы забяспечваць пасёлкі электрычнасцю і вадой, а таксама будаваць інжынерныя сеткі і гравійна-пясчаныя дарогі. Гравійка, мякка кажучы, у Ласосне дрэнная. Калі кола аўтамабіля правальваецца ў чарговую яміну, вырашаю рушыць далей пешшу.

Пасёлак выглядае нібыта дэкарацыі для фантастычнага трылера пра вымерлую Зямлю. Некалькі дзясяткаў падобных катэджаў — і ні душы. Спытаць, ці па правільным адрасе я прыехаў, няма ў каго.

Уваходныя дзверы і шклопакеты на дамах яшчэ абматаныя цэлафанам. Праз вокны і напаўпразрыстыя дзверы можна ўбачыць чарнавое аздабленне катэджаў і нават пагледзець наскрозь, у вокны насупраць. Адзіная прыкмета, па якой можна адрозніць набыты дом ад нічыйнага, — хаця б сімвалічны плот вакол участка.

Ахвотных набыць свежапабудаваныя панэльныя і драўляныя катэджы ў пачатку 2011, калі ўпершыню ўзнікла прапанова, было небагата. Але неўзабаве ляснула дэвальвацыя. Курс даляра скакаў усё вышэй, прычым значна хутчэй за цэны «Гроднажылбуда». Грошы трэба было ўкласці хоць куды, таму гродзенцы і расхапалі эксперыментальныя хаткі.

### «Каб у іх рукі адсохлі!»

Нарэшце перад адным з дамоў бачу мужчыну. Як высвятляецца, гэта гаспадар. Ён яшчэ не жыве ў Ласосне, а прыехаў на дробныя рамонтныя працы. У яго панэльны аднапавярховік.

Першае, што чую ад гаспадара на пытанне пра якасць дамоў, гэта праклён: «Каб у іх усіх рукі адсохлі!» Ён тлумачыць, што судзіцца з будаўнікамі больш за год. У падвале ягонага катэджа стаіць вада. «Патрабаваў, каб перарабілі падмурак», — кажа гаспадар. Гэтая праблема нібыта вырашаецца, але напераддзе наступныя. «Ды тут усё перарабляць трэба!» — разводзіць рукі ён. І сцены няроўныя, і з дахам не пашанцавала. Нараканняў няма хіба што на цеплыню ў доме.

**Катэджы ад завода газетнай паперы**

Каркасныя драўляныя і панэльныя дамы робіць не толькі «Гроднажылбуд». Напрыклад, філіял «Домабудаванне» ёсць на Шклоўскім заводзе газетнай паперы. Самая танная панэльная «Александрыя» плошчай 90 м² каштуе $27 тысяч, самая дарагая панэльная «Альфа» плошчай 243 м² — $70 тысяч.

А вось каркаснікі з клеенага бруса каштуюць ад $20 тысяч («Вікінг», 63 м²) да $150 тысяч («Каштан», 326 м²). Гэта цана складзенага набору будматэрыялаў для ўзвядзення. Кошт працы тут не ўключаны.

Зрэшты, пакуль катэдж не заселены, усіх праблем не ўбачыш.

Свой дом гаспадар набыў, па яго словах, «менш за $100 тысяч», але куплі, відавочна, не рады. «Ці параілі б каму з сяброў пасяліцца па суседстве?» — «Ніколі!» — адразае ён.

На развітанне раюся, ці рэальна знайсці ў пасёлку хоць каго з жыхароў. «Адна пара жыве, — узгадвае ён і паказвае рукой. — Вось там, каля лесу».

### З горада ў прыгарад

Адзіны заселены дом — драўляна-каркасны катэдж на паўтара паверха з мансардай. Званю ў дзверы, і пад гучны брэх кішэннага сабачкі на парозе з'яўляецца гаспадар, які гасцінна запрашае на экскурсію па хаце. Тут няма залатых унітазаў ці плазмы з метровай дыяганаллю, але рамонт зроблены якасна і з густам.

На першым паверсе за перадпакоем знаходзяцца кухня, санвузел і вялікая гасцёўня з лесвіцай наверх. Гаспадыня тым часам глядзіць тэлевізар, каля якога ляжыць агромністая антэна. «Кабельнае тэлебачанне ў пасёлак яшчэ не працягнулі», — тлумачыць яна. «Затое электрычнасць, вадаправод — усё як у горадзе», — падхоплівае гаспадар. Тэрытарыяльна пасёлак уключаны ў склад Гродна. Бліжэйшая крама каапсаюза «Родны кут», дарэчы, за паўкіламетра, за запраўкай.

Падымаемся на другі паверх, тут яшчэ адзін санвузел і некалькі прасторных спальняў. З дзвюх з іх можна выйсці на балкон і палюбавацца краявідамі. Праўда, вакол бачныя толькі недабудаваныя такія ж катэджы. Продаж новых дамоў яшчэ працягваецца. Пачатковы кошт за мансардныя дамы на аўкцыёне складае $71 тысячу.

### Першыя-лепшыя

У інтэрнэце многія наракаюць, што такія дамы халодныя, маўляў, у сценах утвараюцца шчыліны. Гаспадары катэгарычна адмаўляюць прэтэнзіі: «Мы на другім паверсе нават ацяпленне не заўсёды ўключаем, бо інакш аж горача робіцца». Знутры дом уцеплены мінеральнай вартай, звонку — 10-сантыметровым пенапалістыролам і, дадаткова з абодвух бакоў, абабіты стружкавай плітой.

«Як выйшла, што вы фактычна адзіныя на ўвесь пасёлак жывяце?» — «Людзі патроху робяць рамонт, пад лета многія будуць жыць, — прагназуе гаспадар і адразу ж прапануе: — Можа, варта было б прадаваць дамы ўжо з аздабленнем, хай і трохі даражэйшыя».

Немаладая пара расказвае, што набыла свой катэдж за $80 тысяч — прадалі кватэру ў Гродне і пераехалі ў прыгарад. «Такія дамы збіраюцца будаваць па ўсёй краіне. Ці параілі б перасяляцца ў катэджы знаёмым?» — «Якраз сёння да нас дзеці і сябры ў госці прыязджалі, — кажа гаспадар. — Паразважалі і разам вырашылі, што гэта добрая справа».

### Дарага і рызыкоўна

Вызначыцца, ці насамрэч эксперымент паспяховы, складана — ад пачатку будаўніцтва прайшло ўсяго два гады, таму ўсіх падводных камянёў не бачна.

Укласціся ў навінку ўласнымі грашыма рызыкуюць нямногія. Адштурхоўвае і кошт. $70-100 тысяч — гэта вялікія грошы, за якія ў любым месцы Беларусі, апроч Мінска, можна набыць ужо пабудаваны традыцыйным спосабам дом ці вялікую кватэру.

Разварот будаўнічай сферы ў бок каркаснікаў можа быць толькі пры спрыянні дзяржавы, напрыклад, з дапамогай крэдытавання. Стаўкі па рублёвых крэдытах велічэзныя, але ёсць варыянт выдаваць грошы ў валюце. Гэта той рызыкоўны, але патрэбны падыход, які Міхаіл Мясніковіч цяпер пастараецца пралабіраваць ва ўрадзе.

**Ягор Марціновіч, Гродна—Мінск**

# «Санта-Барбара» ў вёсцы Валодзькава

Калі Юлія Бука набыла **восем хатаў пад Глыбокім**, то нават не ўяўляла, што з гэтага выйдзе...

Юля нарадзілася і вырасла ў вёсцы, дзе цяпер месціцца яе аграсядзіба. Рана асірацела: бацька памёр, калі Юлі было ўсяго 5 год, а праз 10 гадоў не стала маці. Таму шмат працаваць прывучылася з маленства.

Юля добра вучылася, і пасля школы яе без экзаменаў узялі ў ветэрынарны тэхнікум. «Маці вельмі хацела, каб я стала ветурачом, бо на той час у ейным уяўленні гэта была адна з найлепшых прафесій у сельскай гаспадарцы», — узгадвае Юля.

Скончыла тэхнікум з чырвоным дыпломам, пайшла вучыцца далей, у Віцебскі ветэрынарны інстытут. Там, у горадзе, сустрэла першага мужа, але лёс з ім не склаўся.

### «Не хацела, каб нашай зямлёй валодалі чужыя людзі»

У канцы 1980-х Юля вярнулася ў Валодзькава ў бацькоўскую хату, у якой жыве і сёння. На той час была другі раз замужам, нарадзіла сына. Але паколькі ў хату бацькоў неўзабаве з Мінска вярнулася і старэйшая сястра, маладая сям'я стала шукаць іншае жытло. Жыллёвае пытанне Юля вырашыла: прадала ў Полацку на кірмашы парася за 1000 савецкіх рублёў і набыла за гэтыя грошы суседнюю хату ў Валодзькаве.

«Потым прадавалася яшчэ адна суседняя хата, — расказвае Юля. —У той час модна было — прыязджалі «гарадскія», скуплялі дамы і сяліліся тут. Вось чамусьці мне не хацелася, каб чужыя людзі валодалі нашай тэрыторыяй, бо гэта землі маіх дзядоў». Так Юля «інстынктыўна» купіла яшчэ адну хату.

Першымі кліентамі былі выпадковыя рыбакі — знаёмыя параілі ім, што «ў адной жанчыны ёсць вольныя хаты». Без электрычнасці і аніякіх умоваў, але госці былі непераборлівыя. Гэта быў першы досвед «аграэкатурызму» і першыя грошы.

Але сапраўдным штуршком стаў мастацкі пленэр, які ладзіла грамадская дзяячка з Германавічаў Ада Райчонак. Трэба было месца, каб размясціць удзельнікаў пленэру. Праз знаёмых яна выйшла на Юлю Буку. «Мы мусілі хуценька падрыхтаваць усе хаты, што ў нас былі куплены, і дазволілі ім пасяліцца ў нас», — узгадвае Юля.

Вось так, без рэкламы, па прынцыпе «знаёмы сказаў знаёмаму», справа раскруцілася. А ў 2006 выйшаў закон, які заахвочваў агратурызм. Падатак на сённяшні дзень складае ўсяго адну «базавую» за год (цяпер — 100 тысяч рублёў).

### Мінімум цывілізацыі — максімум свабоды

На сённяшні дзень Юля мае восем хатаў. З іх палову здае, а ў астатніх месціцца сама, былы муж ды дзеці, калі з'язджаюцца на канікулы. Калі першую хату яна набыла «за парася», то апошняя каштавала ўжо 20 мільёнаў рублёў, ці амаль тры дзясяткі парсючкоў! «Падняла цэны на нашы хаты,» — кажуць валодзькаўцы.

«Гэта не санаторый, звычайная вясковая хата», — папярэджвала Юля Бука. Так і ёсць: драўляныя сцены, печ, старэнькая мэбля ды «бабуліны» фіранкі на вокнах. Пры гэтым усё дагледжанае і натуральнае, без штучных аздабленняў, сайдынгу ды калаўрота ў куце — незаменнага атрыбута многіх аграсядзібаў «пад народнае».

Пра свае ўладанні Юля кажа так: мінімум цывілізацыі, максімум свабоды, як быццам вы ў гасцях у бабулі. Праўда, ванныя пакоі з «гарадскімі» ўнітазамі і гарачай вадой тут ёсць.

«Гэта свабода: мы не будзем з вамі жыць. Вы будзеце самастойна жыць у хаце, як быццам бы бабуля з'ехала некуды, а вы гасцюеце ў яе», — кажа гаспадыня.

За 2012 у «Родным куце» спыніліся больш за 1000 чалавек. Гэта і рыбакі, і мастакі, і сем'і, і каханкі, і студэнты — кліенты розныя. «Часам прыязджаюць проста адпачыць ад людзей, ад інтэрнэту», — кажа Юля.

Не дзіва: пражыванне ў Юльчынай сядзібе абыходзіцца ўсяго 40 тысяч рублёў за суткі. Ежу можна гатаваць самім — ёсць пліта, халадзільнік, а можна за дадатковую плату заказаць «фірмовыя» стравы ад гаспадыні. Да таго ж, для беларускамоўных гасцей ёсць зніжка 20%.

### Клеапатра і Уршуля

Ад нядаўняга часу адна з хатаў аграсядзібы ператварылася ў... сацыяльны прытулак. Пяць адзінокіх бабулек з навакольных вёсак — Клеапатра, Уршуля, дзве Марыі ды Сафія — правядуць тут халодныя зімовыя месяцы. Па вясне хтосьці з іх вернецца ў родныя сцены, а хтосьці, у лепшым выпадку, трапіць на «сацыяльны ложак»...

Справа ў тым, што Юля падпрацоўвае сацыяльным работнікам: пару разоў на тыдзень ездзіць у суседнюю вёску дагледзець старэнькую жанчыну. А гэтай зімой раённыя сацыяльныя службы пастанавілі выкарыстоўваць «інавацыйныя метады працы». Гэта значыць, узяць бабулю на дом. Вось так выйшла, што ад пачатку снежня ў Юлі пасяліліся нетыповыя «кліенткі».





Дзеці дапамагаюць маці па гаспадарцы.

Усе бабулькі жывуць разам у вялікім пакоі вясковай хаты. За пражыванне ў такім своеасаблівым «хостэле» з трохразовым харчаваннем яны плацяць Юлі 1,2 мільёна рублёў з пенсіі. Рэшту сваіх прыбыткаў выдаткоўваюць на прысмакі ці адкладаюць для пляменнікаў. Выглядае, што пенсія — адзіная нагода адведаць старэнькую сваячку...

У кожнай з гэтых пяці жанчын — свая гісторыя адзіноты. Клеапатра Іванаўна, ці павясковаму, Клёня, апошні раз размаўляла з сынам тры гады таму. Ён вайсковец, жыве ў Маскве: «З таго часу ён да мяне не едзе і не звоніць мне. У мяне і тэлефон яго ёсць з кватэры. Я і рана, я і вечар пазваню, а можа адзавецца, а можа... І не адзываецца. Вось так і жыву, мае дзеткі, адна...»

### «Падтрымаю выбар дзяцей»

З другім мужам у Юлі жыццём таксама не склалася. «Магчыма, у мяне занадта вялікія патрабаванні да мужчын, да гаспадара сям'і, бацькі», — кажа Юля. Дарэчы, былы муж цяпер жыве ў адной з хатаў аграсядзібы разам з двума іншымі «таварышамі па чарцы». Часам за грошы ці прадукты робяць штосьці па гаспадарцы.

«Я ўдзячная яму за тое, што дзеці добрыя выйшлі», — кажа Юля. Дзяцей у яе трое: Данік (16 год) і Алеся (13 год) вучацца ў Глыбокім. Старэйшы сын Лёша (23 гады) — магістр турыстычных навук, вучыцца ў Варшаве ў дактарантуры.

Дзеці — незаменныя мамчыны памочнікі. Алеська прасуе бялізну і гатуе есці. Данік — даглядае каня, адвозіць бялізну ў пралку. Работы ўсім хапае.

...Суботнім вечарам сям'я сабралася разам. У Алеські за дзень да гэтага быў дзень нараджэння: «Александрыечка, я цябе віншую, маё сонца. Здароўя табе, маленькая, каб было працаваць каму ў агратурызме», — весела кажа маці.

Данік марыць пабудаваць дом. Ён рэальна разлічвае свае магчымасці: праз пару год — падмурак і частка сцен. Ведае, што трэба «блокаў тысяч на пяць назбіраць». «Во праблема! Збяром, што для нас, алігархаў», — смяецца маці.

Для Юлі галоўнае — каб было ўсё добра ў дзяцей. Каб не спяшаліся жаніцца, каб жылі, бачылі свет, каб займаліся любімай справай. А калі ж яны ўсё ж абяруць іншы занятак, не агратурызм, то маці, канечне ж, выбар дзяцей падтрымае.

**Аксана Рудовіч**

**Цэны**

Суткі ў аграсядзібе каштуюць 40 тысяч рублёў з чалавека. Беларускамоўным — зніжка 20%. Магчымыя зніжкі для групаў. Тэл.: (29)7154621

**Да Валодзькава**

можна дабрацца з Глыбокага на аўтобусе. Да Глыбокага з Мінска рэгулярна ходзяць аўтобусы, цягнікі, маршруткі. Побач з сядзібай — возера Акунёва, лес. Для гасцей ёсць дартс, канькі, лыжы. За дадатковую плату — харчаванне, лазня, прагулка на коні, лодка.

# «А не прогнулся ли ты под режим, сынок?»

**Канфлікт рэдактара** Анлайнера і блогера Будзіміра.

«Пры ўсім маім роўным стаўленні, як галоўны рэдактар я не магу не ўлічваць вашу каляпалітычную дзейнасць, таму, на жаль, не магу даць вам працу. Наша выданне заўсёды было па-за палітыкай, і мы наважаны працягваць гэтую лінію». Такі адказ атрымаў блогер Дзмітрый Галко (Будзімір), які даслаў сваё рэзюмэ ў якасці суіскальніка працы на партале Анлайнер.

Абураны такім адказам і знайшоўшы там «прыкметы парушэння артыкула 14 Працоўнага кодэкса РБ, які забараняе абмежаванне працоўных правоў "у залежнасці ад полу, расы, нацыянальнага паходжання, мовы, рэлігійных ці палітычных поглядаў, удзелу ці няўдзелу ў прафсаюзах ці іншых грамадскіх аб'яднаннях», Галко вырашыў апублікаваць гэтыя радкі ў сваім блогу.

Тады галоўны рэдактар інфармацыйнага партала Onliner.by Дзяніс Блішч сам раскрыў тэму.

У сваім блогу на LiveJournal Блішч апеляваў ужо да нізкіх прафесійных якасцяў Галко. А яшчэ перад гэтым у сваім Твітары Блішч напісаў (арфаграфія арыгінала): «Желаю змагарам никогда не придти к власти в Белоруссии» — і паслаў «на тры літары».

Дзяніс Блішч прыйшоў на Анлайнер з рэакцыйнай газеты «7 дней», якую рэдагаваў ультрасавецкі Віктар Чыкін.

Не засталося па-за ўвагай і наступнае выказванне Блішча: «Любишь скушать глазунью и не прочесть при этом «Нашу Ниву»? А не прогнулся ли ты под режим, сынок? Ну как-то так». Яна нават стала мемам.

Калі эмоцыі астылі, рэдактар Блішч, які, па словах яго самога, «паслядоўна цягам 12 гадоў дыстанцыюецца ад палітыкі», дапісам у блогу ўсё ж папрасіў прабачэння ў «змагароў», бо пісаў тэкст «на эмоцыях, якія былі справакаваны канкрэтным чалавекам, а не групай грамадзян па палітычнай прыкмеце».

Будзімір — блогер, які пэўны час працаваў на радыё «Свобода», але сышоў адтуль, на знак нязгоды з палітыкай ЗША, якія фінансуюць гэтую радыёстанцыю. У свой час ён правёў галадоўку з патрабаваннем вызваліць палітвязняў. Пасля Будзімір нейкі час адпрацаваў вэб-рэдактарам газеты «Народная воля».

Дзяніс Блішч адмовіўся каментаваць спрэчку «Нашай Ніве» дадаткова, бо лічыць сітуацыю «вычарпанай».

На пытанні «Нашай Нівы» пагадзіўся адказаць толькі **Дзмітрый Галко**.

**ДГ:** Блішч павёў сябе непрафесійна. Апошнім часам большасць маіх матэрыялаў складалі артыкулы на тэмы, блізкія парталу: нерухомасць, забудова, няшчасныя выпадкі. Але Блішч адрэагаваў на мой імідж. У адмовы чыста палітычныя прычыны, і так званая «палітычная нейтральнасць» партала не мае ніякага дачынення да гэтага.

Калі б у мяне быў час, я пайшоў бы ў суд, каб звярнуць увагу на гэтую дурную сітуацыю.

**«НН»: З блогаў вынікала, што Вы дамовіліся з рэдактарам Блішчам на асабістую сустрэчу. Чым яна скончылася?**

**ДГ:** Мы абодва засталіся пры сваім меркаванні. Сустрэча, зразумела, зглядзіла асабістую варожасць, але на сітуацыю ніякім чынам не паўплывала.

**«НН»: А як Вы ацэньваеце паводзіны Блішча ў сацыяльных сетках? Ці можа публічаная асоба выказвацца такім чынам? І хто такія «змагары»?**

**ДГ:** Зразумела, не. «Змагары» — тыя, хто не згодны з палітыкай улады. Блішч тым самым закрануў вялікую частку чытачоў Анлайнера.

**«НН»: У выніку Дзяніс Блішч усё ж папрасіў прабачэння. Чаму?**

**ДГ:** Пасля першай «хвалі» падтрымкі Дзяніса пайшла другая, вельмі крытычная. Мабыць, ён зразумеў, што рэпутацыя партала можа пацярпець і пад ціскам быў вымушаны прасіць прабачэння.

Кірыла Хілько, Мікола Бугай



Дзяніс Блішч — рэдактар Анлайнера, наватарскага інтэрнэт-партала.

**Анлайнер**

асвятляе перадусім тэмы гарадскога жыцця, навінкі тэхнікі і тэхналогій, нерухомасці, бізнэсу. Падача матэрыялаў на Анлайнеры хлёсткая, а абмеркаванні на форумах вылучаюцца крытычнасцю, думкі выказваюцца свабодна.

**Каментар**

# Анлайнеры, Будзіміры і п...сы

Піша **Стась Карпаў**.

Хрушчоў меў рацыю па форме. А Оруэл меў рацыю па сутнасці. Хрушчоў хацеў назваць людзей, якія яму не падабаліся, п...самі — так і сказаў. З аднаго боку, і малайчына, бо паліткарэктнасць забівае нават ненароджаную думку.

А Оруэл сказаў, што свабода — гэта права сцвярджаць, што двойчы два — чатыры. Малайчына таксама. З якога боку ні паглядзі.

Тая завaруха, якая адбылася паміж Будзімірам і Анлайнерам, — гэта на самой справе не завaруха паміж Будзімірамі і Анлайнерамі, і менавіта Анлайнер зразумеў гэта самы першы ў момант абагульнення спадара Галко ў катэгорыю зборнага змагара. Гэта завaруха паміж людзьмі, для якіх двойчы два — чатыры, і тымі, каму трэба падумаць, колькі ў нас сёння двойчы два.

Пачну здалёк. 16 сакавіка летась нам паведамілі, што смяротны прысуд у дачыненні да Кавалёва і Канавалава выкананы.

Спачатку увесь спектар рэакцый быў прагназаваны: нехта верыў у доказы пракурора і пакаранне ўхваляў, нехта верыў, але не ўхваляў, астатнія, адпаведна, не верылі і не ўхвалялі. Але ўнікальнасць нашай сітуацыі была ў з'яўленні чацвёртай катэгорыі таварышаў. Чацвёртая група, у асобе Юрыя Зісера плюс нейкага яшчэ зісерападобнага медыямагната з абарыгенаў і пэўная колькасць іх сацыяльных фрэндоў, сфармулявала наступны тэзіс, чым азадачыла мяне недзе на паўгода: вінаватыя ў смяротным прысудзе апазіцыянеры (гл. змагары), якія зрабілі з гэтай бытавой справы палітычную і не пакінулі ўладзе іншага выйсця, як праявіць жорсткасць і давесці сваю святую справу да канца.

Ад «моцы» іх думкі ў маёй галаве спачатку ездзілі бронетранспарцёры, білі барабаны і адбываўся нейкі землятрус.

Чаму і з якой нагоды пэўная катэгорыя людзей, якую цяжка падазраваць у шызафрэніі, радасна дэкларуе, што двойчы два можа быць не чатыры? Вернемся да Оруэла.

Герой рамана «1984», Уінстан, жыве ў таталітарнай Акіяніі, працуе ў Міністэрстве Праўды.

Унутраны ягоны маналог: «Урэшце партыя абвесціць, што двойчы два — пяць і прыйдзецца ў гэта верыць... да гэтага непазбежна вядзе логіка ўлады... Калі і мінулае і знешні свет існуюць толькі ў свядомасці, а свядомасцю можна кіраваць — тады што? Партыя загадвала табе не верыць сваім вачам і вушам. І гэта як канчатковы, самы важны загад».

Уінстан напісаў: «Свабода — гэта магчымасць сцвярджаць, што двойчы два — чатыры. Калі дазволена гэта — адтуль усё вынікае».

Кніга, скажам шчыра, сканчаецца фігова. І не проста фігова. А так, як у нас. Калі Уінстан трапляе ў рукі «кампетэнтных органаў», якія называліся «Міністэрства любові», яго кат доўгі час, дзень за днём, месяц за месяцам мардуе вязня і правярае вынікі сваёй дзейнасці, проста паказваючы таму чатыры пальцы і пытаючы, ці бачыць ён нарэшце пяць.

Якім падзеям мы сталі сведкамі ў 2012? Мы сталі сведкамі таго, як некаторыя людзі перамаглі і пераканалі, што двойчы два — пяць. Засталося толькі адказаць на пытанне — як і навошта.

## Мы сталі сведкамі, як некаторыя людзі перамаглі і пераканалі, што двойчы два — пяць

Калі чалавек інтэлектуальнага кшталту прыходзіць да нескладанай высновы, што Лукашэнка асацыяваны ў яго свядомасці з несправядлівасцю, ён мусіць нешта з гэтай высновай рабіць.

Адзін чалавек, дапусцім, можа сядзець і страчваць артыкул з хуліганскай назвай, другі — несці дакументы ў гарвыканкам. Але сама выснова, нарадзіўшыся ў тваёй галаве, прымушае перажываць і жыць з пачуццём несправядлівасці, якое камфортна існуе вакол, і ўласнае маўчанне табой жа так ці інакш будзе ўспрымацца як пазіцыя згоды. Гэта стварае ўнутраны дыскамфорт, які многія не ўмеюць пераносіць, бо вынікам самааналізу стануць два кароткія словы: «Я сцыкло».

Не баязлівец, не памяркоўны і талерантны, а сцыкло. Гэты страшны прысуд усім вядомы з дзіцячых гадоў. І жыць з такой высновай яшчэ цяжэй.

У галаве тады нараджаецца выратавальная думка, што, спачатку «груба кажучы» і «з пэўнымі дапушчэннямі», пасля — «па вялікім рахунку» і, нарэшце, «безумоўна» Кавалёва і Канавалава расстралялі змагары. Эканоміка наша дасягнула дна і зарылася ў грунт па віне змагароў, а калі да ўлады прыйдуць змагары, ды яшчэ ў «Беларусіі», яны на раз-два зваяюць маленькі Бухенвальд.

Так тэзіс «я сцыкло" замяняецца на выратавальнае «я за праўду». А гэта, як можа быць сказала б спадарыня Каткавец, «вывіх в этай связі».

Так з'яўляюцца абвінавачанні апазіцыі ў сваіх уласных страхах. Так з'яўляюцца: «Желаю змагарам никогда не придти к власти в Белоруссии», што завяршае ментальнае зрастанне аўтара з формулай 2×2=3/5.

Сёння з некаторай упэўненасцю можна сцвярджаць, што, у адрозненне ад раманаў, гісторыя ўсё-такі расстаўляе па сваіх месцах — і з яе вышыні добра відаць, хто чалавечак і хто п...с. Не блытаючы з гомасэксуалізмам.

# І выдаленне не дапамагло

**БАТЭ не змог** перамагчы «Фенербахчэ» ў першай гульні 1/16 фіналу Лігі Еўропы.



Спецназ, пераапрануты ў камізэлькі сцюартаў, не дазваляў гульцам «Фенербахчэ» падарыць майкі фанатам.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У чацвер у Гродне было шматлюдна. Прычына — футбол. Менавіта ў горадзе святога Губерта барысаўцам выпала прымаць турэцкі «Фенербахчэ».

З берагоў Басфора ў Гродна прыехала чалавек 300. З Барысава людзей было значна болей. Зрэшты, усе паводзілі сябе абсалютна мірна. Можа, так Дзень святога Валянціна на людзей уплываў? Праўда, у горадзе яшчэ забаранілі прадаваць спіртное перад гульнёй.

Нават спецназаўцы былі ў гуморы: «У сумцы забароненыя прадметы ёсць?» «Не». «Непарадак, павінны быць», — такія спецыфічныя жарты.

Тэрмометр паказваў 0 градусаў, але было холадна. Добра, што якасна працавалі шапікі з харчаваннем. Чай налівалі ўвогуле задарма.

Газон для сярэдзіны лютага быў ідэальным. Карацей, поўная раскладка на карысць БАТЭ. А тут яшчэ і ірландскі арбітр Келі ўжо на першых хвілінах выдаліў суперніка — партугальца Рауля Мейрэлеша.

Шкада, але колькасная перавага не дапамагла. Атакавалі ўсю гульню, нават Глеб біў па варотах! (Пасля сустрэчы ён сказаў: «Я прыгажун».) А забіць не змаглі — 0:0.

Але нават нічыя пакідае неблагія шансы перад сустрэчай у адказ.

**Зміцер Панкавец,**
**Гродна — Мінск**

# Канада перайшла на пластыкавыя купюры

Вадастойкія, **легкаплаўкія і непаліткарэктныя**.

З канадскімі далярамі цяпер можна не толькі пайсці ў краму, але і паказваць дзівосныя трукі: мачыць іх у вадзе, мыць з мылам, класці ў пасудамыйку. І купюры застануцца непашкоджанымі, бо зроблены з тонкай палімернай плёнкі.

Канада выпусціла першую пластыкавую банкноту наміналам 100 канадскіх даляраў у 2011 годзе. За ёй выйшлі купюры 50 і, нарэшце, 7 лістапада 2012 года, — 20 канадскіх даляраў. Пластыкавыя грошы не з'яўляюцца ноу-хау канадскага нацбанка.

Дарэчы, дызайн новых канадскіх даляраў выклікаў спрэчкі не толькі сярод батанікаў, але і прыхільнікаў палітычнай карэктнасці. Так, на макеце 100-даляравай купюры, дызайн якой адлюстроўваў медыцынскія дасягненні Канады (медыцына ў краіне цалкам бясплатная, у адрозненне ад Беларусі), першапачаткова была намалявана жанчына манталоіднай расы, якая глядзела ў мікраскоп. На выпушчанай купюры азіятку замяніла еўрапеоідка. У сувязі з гэтым старшыня Банка Канады быў вымушаны афіцыйна прасіць прабачэння за «адлюстраванне толькі адной этнічнай групы» на купюры.

**Кірыла Хілько**




# У Калінінградзе ломам знявечылі помнік Беларусі

Паліцыя затрымала двух падазраваных у вандалізме.

Паводле звестак упраўлення МУС, у скверы расійска-беларускай дружбы на вуліцы Кутузава невядомыя вырвалі металічную шыльду з назвай аднаго з гарадоў Беларусі, яшчэ дзве такія шыльды пашкоджаныя. На іх бачныя сляды ад лома.

Сквер расійска-беларускай дружбы быў створаны ў Калінінградзе ў 2006 годзе. У цэнтры сквера размешчана скульптурная кампазіцыя, а па коле знаходзяцца шэсць лавак, якія сімвалізуюць вобласці Беларусі, а таксама тумбы з гербамі гэтых рэгіёнаў.

Паводле апошняга перапісу, 4% жыхароў Калінінградскай вобласці назвалі сябе беларусамі.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



**Дар'я Домрачава стала чэмпіёнкай свету па біятлоне. У заключны дзень спаборніцтваў у чэшскім Нове-Места наша спартсменка перамагла ў мас-старце. Гэта другі чэмпіёнскі тытул беларускі за кар'еру.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Апазнаны Лятаючы Аб'ект

...У гэтым было нешта сімфанічнае: агнявы шар... успышка на ўсё неба... далёкі выбух і супакоены, бы лёгкі ўспамін, шлейф...

Потым замільгацелі твары ў крыві, рукі і галовы ў бінтах, выбітыя шыбы, знесены дах...

Роўна тры дні страсалі інфармацыйную прастору касмічная сімфонія ў небе і жах на зямлі. Больш за стагоддзе чалавецтва затрымлівае дыханне, узгадваючы Тунгускі метэарыт. Між тым, навукоўцы сцвярджаюць, што абедзве катастрофы супастаўныя па паходжанні і маштабах.

Няўжо інфармацыйныя тэхналогіі так спрасавалі Час, што за тры дні магчыма даведацца амаль аб усім тым, на што не хапіла стагоддзя? Верагодна, так.

Тунгускі метэарыт бачыла толькі Усёвідушчае вока.

Чэлябінскі — тысячы мабільнікаў, сотні відэарэгістратараў...

Тунгускі выбух дасюль гучыць над маўклівай пустэчай Часу...

Чэлябінскі выбух закрэслены пісклявым «афігець!»

У тыя ж дні, калі выбуховая хваля з гэтым моўным дасягненнем сучаснасці неслася па сеціве і тэлеэкранах, адбылася сціплая, амаль незаўважная падзея — былому савецкаму афіцэру Станіславу Пятрову ўручылі Дрэздэнскую міжнародную прэмію міру. Уначы з 25 на 26 верасня 1983 года падпалкоўнік Пятроў выратаваў свет ад ядзернага Армагедона.

Я вось думаю цяпер: што вымусіла дзяжурнага па савецкай сістэме ранняга папярэджвання аб ракетным нападзе тыя літаральна некалькі хвілін, што заставаліся да націскання чырвонай кнопкі, не верыць у тое, што пяць амерыканскіх міжбалістычных ракет ужо запушчаны і ляцяць? Парушыць усе статуты, правілы, абавязкі і не верыць сістэме, яе фатальным падлікам, а спакойна, удумліва, не зважаючы на ліхаманкавы бег секунд, шукаць памылку...

## Чалавецтва страціла страх. І гэта мо самае страшнае, што здарылася з ім

Адказнасць? Безумоўна. Прафесійнасць? Бясспрэчна. Але найперш страх. Не за сябе. Нават не за дзяржаву. Бо калі б так, кнопка была б націснута. Не, гэта быў іншы страх — за чалавецтва, за чалавечнасць у чалавецтве, за апошні момант яго жыцця...

Але ці не чалавецтва падвяло сябе да апошняй рысы і самаўпэўнена вырашыла, што ўтрымае самазнішчальную моц? І які сэнс страшыцца нябеснай кары, калі мы самі здольны насланць яе на каго палічым патрэбным?

Якая там кара? Які Чарнобыль? Фігня... Афігець...

У 2011 пад тым жа Чэлябінскам быў выяўлены найвялікшы ў свеце геогліф — выкладзеная каменнямі 5—8 тысяч гадоў таму выява велізарнага лася. Навукоўцы не ведаюць, як тое было магчыма...

Я ўяўляю сабе таго мастака — з якім страхам углядаецца ён у бязмежнае зорнае неба, а з першымі промнямі сонца выкладвае свайго лася, каб параўнацца з таямнічым небам і пераадолець страх.

Уся чалавечая культура нарадзілася з таго першабытнага страху перад таямнічай неабсяжнасцю неба. Сёння, калі і ёсць страх, дык толькі за тое, каб хто варожы не скраў інфармацыю, не авалодаў знішчальнымі тэхналогіямі і не стаў панаваць над светам.

Я добра памятаю, якога страху на савецкія ўлады нагнаў у 1985 годзе артыкул у газеце «Труд» пра НЛА, які бачылі экіпажы двух грамадзянскіх самалётаў амаль што над Мінскам. Хто цікавіцца, можа і зараз прачытаць яго і аб яго наступствах, калі заб'е ў пошукавік назву «Ровно в 4.10». Але там наўрад ці хто знойдзе паведамленне пра заўчасную смерць Іллі Мелянеўскага, загадчыка аддзела навукі, добрага і вельмі адказнага журналіста. Пра містычнае супадзенне назвы і нумара ягонага кабінета — 4-10 — знойдзе. Пра вымовы, тэлефонныя нагонкі і нават амаль што міжнародны скандал — знойдзе. Але пра скрамсаную душу Іллі і сэрца, што не вытрымала, — анічога...

Сёння НЛА сталіся ці не штодзённай кармушкай для СМІ — і тых, што адсвечваюць жаўцізной, і тых, што прэтэндуюць на разважлівую грунтоўнасць. Я нават не ведаю, ці сапраўды ёсць цікавасць да іх — такой звыклай сталася іх прысутнасць у паўсядзённым жыцці... Ды што НЛА, калі Апазнаны Лятаючы Аб'ект над Уралам хваляваў чалавецтва ўсяго тры дні і не стаў падставай, каб угледзецца не толькі ў неба, а і ў самога сябе?!

Ці не ў тым справа, што, авалодаўшы тэхналогіямі, якія здольны працяць паверхню Марса, яно застаецца няздольным адмовіцца ад ядзернай зброі і прадухіліць касмічны Армагедон?!

Ці не ў тым справа, што парушаны знакаміты кантаўскі імператыў пра зорнае неба над намі і маральны закон унутры нас?!

«Сёння раніцай, — з горыччу піша сучасны філосаф Эміль Чоран, — пачуўшы, як нейкі астраном распавядае пра *мірыяды сонцаў*, я не стаў прыводзіць сябе ў парадак: навошта цяпер мыцца?»

Афігець!

* * *

16 лютага, у суботу, у кожнага, з кім давялося размаўляць, я пытаўся, ці глядзеў хто жывую трансляцыю НАСА пра астэроід, што апоўначы рухаўся паблізу Зямлі. Нехта трохі глядзеў, але большасць супакоена адпачывала.

Чалавецтва страціла страх. І гэта мо самае страшнае, што здарылася з ім.

# Чалавецтва і астэроіды



Кратэр на месцы падзення вялікага метэарыта ў Арызоне (ЗША).

Працяг са старонкі 2.

Справа ў тым, што пошук небяспечных цел каштуе велізарных грошай, і трэба любым спосабам уздымаць цікавасць грамадства да праблемы, каб фінансаванне даследаванняў не спынялася.

### Спадзеў на НАСА

Такім чынам, хвалявацца не варта — лягчэй памерці ад грыпу, чым ад астэроіда. Але што ж рабіць, калі ўсё ж такі нябесная сустрэча адбудзецца? Тут навукоўцы пакуль адказваюць досыць стрымана.

Толькі ў галівудскіх фільмах можна адшукаць Бруса Уіліса з паплечнікамі, хуценька пасадзіць іх у касмічны карабель і накіраваць да касмічнага ворага. На самай жа справе на дадзены момант мы не валодаем тэхналогіямі, здольнымі адхіляць небяспечныя целы ад Зямлі. Сярод такіх тэхналогій звычайна ўзгадваюць падрыў астэроіда, усталёўка на яго паверхні магутных ракетных рухавікоў і нават пафарбоўка ў белы колер з прымацаваннем сонечнага паруса. Без удзелу чалавека такія аперацыі не ажыццявіць, а пілатаваныя караблі яшчэ нікуды, акрамя Месяца, не ляталі. Можа, менавіта таму касмічнае агенцтва НАСА абяцае спачатку высадзіцца не на Марс, а на невялікі астэроід?

Чаму ж тады, нягледзячы на ўзровень сучаснай тэхнікі, вучоныя не заўважылі ў космасе метэарыт, што выбухнуў над Чэлябінскам? Адказ просты — такія касмічныя целы занадта малыя для таго, каб іх выявіляць на вялікай адлегласці сучаснымі тэлескопамі. Асабліва калі ўлічыць, што яны маюць яшчэ і амаль чорны колер паверхні. Часам бывае, што такія мініастэроіды мы знаходзім ужо пасля таго, як яны зблізіліся з Зямлёй і небяспека мінула.

### Ні разу

Але не варта баяцца і такіх метэарытаў: яны сутыкаюцца з Зямлёй усяго толькі пару разоў за стагоддзе. І калі ўлічыць, што большая частка нашай планеты не населена людзьмі, можна зразумець, што шанцы ўпасці на горад ці вёску ў касмічнага госця мінімальныя. Сёлетні выпадак у Чэлябінску сапраўды стаў унікальнай падзеяй — такія катастрофы над гарадамі здараюцца раз у тысячагоддзі. Афіцыйная ж статыстыка за апошнія некалькі сотень год увогуле не ведае ніводнага выпадку гібелі чалавека ад метэарыта. Былі адзінкавыя выпадкі, калі нябесныя камяні лёгка траўмавалі людзей (цяпер да іх дадасца яшчэ паўтары тысячы чэлябінцаў), метэарыты часам забівалі дзікіх птушак ці хатніх жывёл, але ў чалавека яшчэ не траплялі ні разу.

Беларусь, дарэчы, таксама не застаецца ўбаку ад касмічных жарсцяў. Ноччу 16 ліпеня летась над поўначчу нашай краіны пранёсся агнявы шар, палёт якога суправаджаўся моцным грукатам і скончыўся магутным выбухам. Жыхары Глыбоцкага і Полацкага раёнаў гатовыя падоўгу расказваць, як грукацелі шыбы ў вокнах у тую ноч. Пашанцавала ўбачыць незвычайны балід і аўтару гэтых радкоў: падчас здымак зорных пейзажаў на Браслаўшчыне раптоўна на вуліцы стала светла, быццам ад святочнага салюта, з'явіліся рэзкія цені ад прадметаў, якія хутка перасоўваліся. А праз некаторы час адбылася яркая ўспышка, якую бачылі нават з-пад Пінска. Праўда, слядоў метэарыта на зямлі знайсці пакуль так і не ўдалося...

### Знічкі

І калі яркія баліды, гатовыя сапернічаць па бляску з Сонцам, выключна рэдкія, любы з нас можа паназіраць за іх малодшымі братамі — метэорамі або знічкамі. Штогод наша планета сутыкаецца з неймавернай колькасцю маленькіх часцінак, якія цалкам згараюць у нашай атмасферы, утвараючы прыгожую з'яву «падаючых зорак». Асабліва шмат іх можна ўбачыць цёплымі жнівеньскімі начамі (11—13 жніўня), калі Зямля перасякае арбіту часцінак каметы Свіфта—Татла. Калі пашанцуе, у гэты час за гадзіну можна налічыць да 60 знічак, кожная з якіх утвараецца пры згаранні часцінкі памерам са шпілечную галоўку. Калі вы знаходзіцеся далёка ад горада пад цёмным небам, гэтае відовішча можа быць настолькі прыгожым і захапляльным, што хаця б на момант прымусіць забыць пра ўсе касмічныя небяспекі і адчуць хараство таго свету і таго моманту, у якім мы жывём.

**Віктар Малышчыц, астраном**

## Навошта рускім столькі відэарэгістратараў?

Гэта адно з самых папулярных пытанняў на Захадзе пасля падзення метэарыта.

Як цяпер ужо вядома, падзенне метэарыта ў Расіі не было спрагназаванае. І тым не менш, увесь свет пабачыў захапляльныя кадры з Чэлябінска. Пераважна яны былі зробленыя камерамі назірання на гарадскіх вуліцах і відэарэгістратарамі аўто. За некалькі гадзін пасля здарэння назбіралася столькі ролікаў, што можна было складаць з іх рэйтынг найлепшых.

Колькасць відэаматэрыялу, сабранага з рэгістратараў, выклікала цікаўнасць за мяжамі Расіі. У заходніх СМІ адным з самых масавых пытанняў было «Нашто рускім столькі відэарэгістратараў?»

Такая рэакцыя чытачоў нават стала нагодай для дадатковых публікацый у прэсе. Японская газета «Асахі» прыйшла да высновы, што масавае выкарыстанне відэарэгістратараў расійскімі аўтааматарамі з'яўляецца лагічнай рэакцыяй на агульную сітуацыю на дарогах краіны. Гэта і п'яныя кіроўцы, і аматары перавышэння хуткасці, і непрыбраны снег.

Адзначым, што выкарыстанне відэарэгістратараў робіцца ўсё больш папулярным і ў Беларусі. Да іх выкарыстання заахвочваюць і самі супрацоўнікі ДАІ.

**Сямён Печанко**

## Латыніна і метэарыт

Вядомая расійская журналістка выбачылася за артыкул «А які бартавы нумар быў у метэарыта?»

Юлія Латыніна адрэагавала на падзеі ў Чэлябінску аператыўна. Раніцай 15 лютага на сайце «Новой газеты» з'явіўся артыкул «А які бартавы нумар быў у метэарыта?» Пачала яго журналістка з агаворкі, што яна філолаг, а не ракетчык. Яна сфармулявала шэраг пытанняў. Чаму, напрыклад, метэор ляцеў з боку аднаго вайсковага палігона ў бок другога? Чаму траекторыя яго палёту нагадвала перамяшчэнне ракеты? Чаму на месцы магчымага падзення метэарыта працавалі два дзясяткі сілавікоў?«Баяцца, што знойдуць на кавалку метэарыта бартавы нумар?» Сам выбух метэарыта нагадаў Латынінай самаліквідацыю ракеты ў выніку пазаштатнай сітуацыі.

Напрыканцы артыкула журналістка падкрэсліла, што «нашых вайскоўцаў можна зразумець», бо калі версія з ракетай пацвердзіцца, гаворка будзе весціся пра каласальныя кампенсацыі для пацярпелых.

Увечары артыкул быў зняты з сайта «НГ» па просьбе аўтаркі. На наступны дзень Латыніна папрасіла прабачэння ва ўласнай перадачы на радыё «Эхо Москвы». «Натуральна, гэта абсалютнае трызненне, бо як толькі стала зразумела, што там гаворка ідзе пра кілатону выбуху, то зразумела, што гэта ніякая не ракета, і зразумела, што гэта, сапраўды, метэарыт».

**СП**

## Пракол Першага канала

Першы канал у выпуску навінаў паказаў месца магчымага падзення метэарыта — велізарны кратар, ахоплены полымем. Кадры тэлевізіёнікі знайшлі ў інтэрнэце. І пракалоліся. Кратар з навінаў «першага» гарыць ажно з 1971 года і знаходзіцца за некалькі тысячаў кіламетраў ад Чэлябінска, дакладней — у Туркменіі.

Газавы кратар Дарваза, які яшчэ клічуць «уваходам у пекла», утварыўся ў выніку аварыі пры бурэнні газавай свідравіны. Нехта ўставіў кадры з пылаючым кратарам у зборку відэа з Чэлябінска, відаць, для большага трагізму. Цікава, што ніхто не заўважыў такой грубай памылкі: Дарваза з'яўляецца турыстычнай цікавосткай.

**Кірыла Хілька**



Падзеі ў Чэлябінску сталі нагодай для з'яўлення ў інтэрнэце фотажабаў. Адзін з першых сатырычных водгукаў быў прысвечаны прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну, якога з дапамогай фоташопа «пасадзілі» на шлейф ад метэарыта.



# Дух з туалецішча

**Былыя міністр спорту і турызму Алег Качан і памочнік прэзідэнта па пытаннях фізкультуры і спорту Ігар Заічкаў адкажуць за свае дваровыя прыбіральні.**

Нагадаем, што пасля сходу ў Нацыянальным алімпійскім камітэце, які адбыўся ў кастрычніку 2012 года, Лукашэнка адправіў у адстаўку міністра спорту і турызму Алега Качана і памочніка прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму Ігара Заічкава. Перад гэтым на сходзе НАК кіраўнік дзяржавы жорстка крытыкаваў дзейнасць гэтых чыноўнікаў, намякаючы, што яны больш дбалі пра сваё дабро, чым аб развіцці беларускага спорту.

Таму было прадказальна, што праваахоўныя органы сталі старанна капацца ў дзейнасці гэтых чыноўнікаў, асабліва ў сферы будаўніцтва іх асабістай нерухомасці. У першую чаргу, гаворка ішла пра саміх Качана, Заічкава і дырэктара ўстановы «Рэспубліканскі цэнтр коннага спорту і конегадоўлі» Віктара Міхадзюка. Крымінальная справа ў дачыненні да Міхадзюка ўжо заведзеная. Яму інкрымінуецца злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі.



Алег Качан.

Цяпер жа Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС выявіла спецыфічныя аб'екты нерухомасці, якія былі ўсталяваныя на дачных участках Качана і Заічкава за чужы кошт.

Па дадзеных ГУБЭЗ ведамства міністра Шуневіча, у чэрвені 2012 года на вытворчым лесаперапрацоўчым участку «Закрэўшчына» ДЛГУ «Уздзенскі лясгас» былі выраблены дзве дваровыя прыбіральні. Аб'екты нерухомасці вырабляліся з лесаматэрыялаў, але ў вельмі добрым, можна нават сказаць, прэзентабельным выглядзе, таму і кошт кожнай уборнай склаў 10 мільёнаў рублёў.

Дваровыя туалеты былі адлюстраваны ў бухгалтарскім уліку прадпрыемства і ў далейшым былі адгружаныя ў «Рэспубліканскі цэнтр алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі», размешчаны ў пасёлку Ратамка Мінскага раёна. Аднак рэальна туалеты былі дастаўленыя ў садоўніцкае таварыства «Мая радасць» у вёсцы Закаблукі Мінскага раёна (каля 10 км ад МКАД) і пастаўлены на ўчастках Ігара Заічкава і Алега Качана.

Дзеля справядлівасці варта адразу адзначыць, што крымінальных спраў у дачыненні да Алега Качана і Ігара Заічкава пакуль не заведзена. Наадварот, фігурантамі справы сталі дырэктар ДЛГУ «Уздзенскі лясгас» і начальнік вытворчага ўчастка «Закрэўшчына» гэтага лясгаса. Менавіта ім інкрымінуецца здзяйсненне злачынства па ч.2 арт.210 Крымінальнага кодэкса Беларусі (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі).

На думку Генеральнай пракуратуры, якая распачала крымінальную справу, менавіта яны далі ўказанне падначаленым ім па службе работнікам вырабіць з піламатэрыялаў, якія знаходзяцца на балансе ўчастка «Закрэўшчына», названыя дачныя прыбіральні, зрабіўшы прадпрыемству шкоду 20 мільёнаў рублёў.

Справа перададзена на расследаванне ў Следчы камітэт.

Па звестках «Ежедневника», аб прыбіральнях Качана і Заічкава ўжо далажылі кіраўніку дзяржавы. Чакаюць ад яго рэакцыі.

**Георгій Дань, ej.by**

## Вышук



**42-гадовы мінчук** падазраецца ў крадзяжах у дзіцячых садках сталіцы. У першым выпадку гэта была дамская сумачка дырэктаркі. Другі ж раз яго ўбачылі, калі выносіў тэлевізар. Пры затрыманні ў яго знайшлі крадзеныя рэчы з трэцяга месца. Не выключана, што эпізодаў больш.

Партызанскі РУУС шукае людзей, якія маглі пацярпець ад мужчыны. Тэлефанаваць на: (017) 249-02-02.



**Затрыманы** падазраецца ў махлярстве. Ён знаёміўся з ахвярамі на дыскатэках, у барах, на вуліцы. Уваходзіў у давер, а затым пазычаў у іх грошы нібыта на развіццё бізнэсу, браў напракат аўто, у часовае карыстанне — мабільнікі. А затым знікаў.

Пакуль вядома пра 18 пацярпелых з сумай шкоды 250 млн руб. Фрунзенскае РУУС шукае тых, хто яшчэ мог пацярпець ад маладога чалавека. Тэлефанаваць на: (017) 257-06-05, (017) 252-02-02.



Быхаўскі РАУС расшуквае **Буевіча Генадзя Віктаравіча**, ураджэнца г. Баранавічы. Ён падазраецца ў выкарыстанні заняткаў прастытуцыяй альбо стварэнні ўмоваў для гэтага. Прыкметы: на выгляд 35 гадоў, рост 185 см, валасы светлыя, нос прамы. На левай руцэ ёсць татуіроўка ў выглядзе літар «ДШБ».

Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, просьба патэлефанаваць: (02231) 5-84-79, (044) 744-16-63.

# Кіроўца фуры крывёю запісаў нумар бандыта

**З-за 200 даляраў** ледзь не загінуў дальнабойшчык.

Дзёрзкі напад на расійскага дальнабоя адбыўся ў Дзень усіх закаханых. Антон Галюкевіч ехаў на птушкафабрыку ў Баранавіцкі раён. Калі спыніўся на стаянцы, каб агледзець кузаў аўтамабіля, яго ўдарылі ззаду па галаве, і ён страціў прытомнасць. «Калі я ачомаўся ў кузаве рэфрыжэратара, у мяне была паніка. Дзверы былі зачыненыя, поўная цемра».

Антон дабраўся да вузкага акенца для праветрывання ў дзвярах, разагнуў, наколькі гэта было магчыма, металічныя краты і стаў клікаць на дапамогу. Але беспаспяхова.

Праз акенца ён заўважыў чырвоны мікрааўтобус на стаянцы. Мяркуючы, што менавіта на гэтай машыне мог прыехаць злачынец, палонны ўласнай крывёю запісаў нумар мікрааўтобуса на сцяне рэфрыжэратара (калі разгінаў краты на акенцы, ён моцна параніў рукі).

Хвілін праз дваццаць фура ад'ехала. Замкнуты дальнабой кідаў на дарогу адзенне, але гэта не прыцягнула ўвагі іншых кіроўцаў. А калі аўто спынілася, зламыснік гучна ўключыў музыку і сышоў.

Выратаваў кіроўцу рыбак, што праходзіў побач. Па словах расіяніна, яго выратавальнік, відавочна, спалохаўся не менш, чым ён сам. І паспяшаўся збегчы, як толькі палонны выбраўся з кузава.

Калі прыехала міліцыя, Антон паказаў ім нумар буса. Высветлілася, менавіта на ім і прыехаў зламыснік. Гэта 40-гадовы жыхар Нясвіжа, раней судзімы. Ён ледзь не адправіў на той свет мужчыну дзеля 200 даляраў, што скраў у кабіне.

Антон Галюкевіч паспяхова вярнуўся дадому. Але ад паездак на бліжэйшы час адмовіцца.

**Паводле Intex-press**



## Сцісла

### Памежніку, які не паведаміў пра шведскі самалёт, далі 2 гады калоніі

Справу разглядаў Гродзенскі межгарнізонны вайсковы суд. Прысуд вынеслі яшчэ 4 студзеня. Мужчына быў прызнаны вінаватым у тым, што парушыў службовыя абавязкі і не паведаміў пра самалёт-парушальнік у адпаведныя падраздзяленні Мінабароны.

### Кіроўцу «Поршэ» пасадзілі на 4 гады

Андрэя Забабуру, які на «Поршэ Каен» у лістападзе збіў дзевяцігадовага школьніка, асуджаны на 4 гады калоніі-пасялення (гэта спецкалонія ў Горках, дзе адбываюць пакаранне толькі кіроўцы). Ён таксама пазбаўлены правоў на 5 гадоў і павінен кампенсаваць сям'і загінулага юрыдычныя выдаткі падчас працэсу.

### 14-гадовая парэзала каханага

15-гадовы школьнік са Століна прыехаў да дзяўчыны ў пасёлак Рэчыца, каб паведаміць ёй пра расстанне. Дзіця так разнервавалася, што схапілася за нож і пырнула каханага. У хлопца — пашкоджана лёгкае. Ён шпіталізаваны, але рана загойваецца. Дзяўчо не затрымалі, але завялі на яе крымінальную справу.

### У дзень прэм'еры згарэў тэатр

Мазырскі дзяржаўны драматычны тэатр імя Мележа загарэўся 16 лютага за некалькі гадзін да спектакля. Ставілі ў той вечар «Трагедыю прынца Дацкага» паводле «Гамлета» Шэкспіра. У выніку пажару знішчана каля 800 кв. м даху, пашкоджаны другі паверх будынка.

### У каўбасы клалі абы-што

Прадпрымальная пара з Мінска два гады дурыла санэпідэмстанцыю, падпольна выраблялa каўбасы. Калі да іх у арэндаваную сталоўку прыходзілі праверкі, тыя не пускалі: прыкрываліся распачатай рэканструкцыяй. Калі ж унутр трапілі міліцыянты, акрамя антысанітарыі ўбачылі і інгрэдыенты — свіныя скуркі і вотруб'е. Аказалася, яшчэ ў 2011 у сям'і скончыўся дазвол на выпуск каўбасаў. Але заставалася абсталяванне.

### Згарэлі чатыры аўто

У Мінску на паркоўцы на выхадных згарэлі чатыры аўто. Першым загарэлася Peugeot 406, затым заняліся Audi A6, Audi 80 і Opel Omega. Яны пашкоджаны ў рознай ступені. Нязначна агнём пашкоджаны і «Масквіч», што таксама стаяў побач. Мяркуецца, што да пажару прывяло кароткае замыканне электраправодкі ў Peugeot.

**КМ**

Фотафакт



15 лютага ў Смаленску (Расія), у забітым пад завязку народам клубе «Губернскі» выступаў «Ляпіс Трубяцкой». Большасць фанатаў прыехала на канцэрт аўтобусамі з Беларусі.

КІРЫЛА ХІЛЬКО

# У польскія кінатэатры выходзіць «Жыве Беларусь»

Прэм’ера **адбудзецца 17 красавіка** ў Варшаве.

Нашумелы задоўга да выхаду фільм Кшыштафа Лукашэвіча «Жыве Беларусь!», часткова заснаваны на дзённіках Франака Вячоркі, урэшце выходзіць на экраны. Прэм’еру фільма абяцалі на мінулы Дзень Волі, пасля — «восенню», але цяпер стала вядома дакладная дата — 17 красавіка.

Галоўны герой фільма — рок-музыка Мірон, гурт якога трапляе ў «чорны спіс», а сам ён — у войска. Яго допісы ў інтэрнэт, у якіх ён раскрывае цёмныя бакі жыцця ў казарме, выклікаюць вэб-рэвалюцыю. У галоўнай ролі зняліся беларускі рэпер Вінсэнт і яскравая польская акторка Караліна Грушка.

Паводле словаў Ф.Вячоркі, на чыіх дзённікавых запісах часткова грунтуецца сцэнар, фільм пройдзе ва ўсіх буйных гарадах і ўсяго ахопіць 100—200 кінатэатраў. Вячорка разлічвае і на пракат у іншых краінах: «Усё-ткі гэта першы вялікі фільм пра сучасную Беларусь. Хацелася б, каб замежнікі пачулі і беларускую мову, пабачылі беларускіх актораў. Хочацца, каб фільм даў штуршок менавіта беларускаму кінематографу».

На варшаўскую прэм’еру запросяць усіх беларусаў, якія ўдзельнічалі ў здымках. Гэта чалавек 50—70. Фільм на розных фестывалях будуць прэзентаваць рэжысёр, Вінсэнт, Караліна Грушка, Лявон Вольскі.

**ЮУ**

# Беларусь, якой яна была

Выйшаў **дарагі фотаальбом з 442** здымкамі пачатку XX стагоддзя.

Даследчыца Вольга Лабачэў-ская выдала кнігу «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911–1912». «Гэтая калекцыя захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Віленскага ўніверсітэта, — расказвае аўтарка. — Пра яе ведалі навукоўцы-этнографы, якія працавалі ў 1960-я. Але толькі ў канцы 1980-х дзякуючы Івану Цішчанку стала вядома, што гэтыя здымкі зрабіў беларускі этнограф Ісак Сербаў».

Усяго ў калекцыі 442 фота, але, паводле спадарыні Лабачэўскай, спачатку іх было болей за паўтары тысячы.

«Дакладна была яшчэ вандроўка Сербава ў 1913 годзе, — расказвае спадарыня Вольга. — Ён быў сябрам Паўночна-Заходняга расійскага імператарскага геа-графічнага таварыства, яны да-памагалі Сербаву фінансава падчас вандровак. Тады ж у таварыстве з’явілася ўстаноўка — падчас паездак рабіць фота, бо акурат тады з’явілася тэхніка, якая дазваляла рабіць гэта. Планаваўся і выпуск альбома паводле ягоных справаздач, аднак гэтаму перашкодзіла Першая сусветная вайна».

Здымкі, сабраныя Сербавым, захоўваюць вялікую колькасць унікальнай інфармацыі, бо да кожнага з іх прыкладалася дакладнае апісанне таго, хто выяўлены на здымку і дзе гэты здымак зроблены.

«Стварыць такі фотаальбом было неабходна, — кажа спадарыня Вольга. — Мне вельмі прыемна, што некаторыя людзі ўжо знайшлі фота сваіх продкаў дзякуючы гэтай кнізе. Усяго ў яе ўключаныя 74 населеныя пункты».

Калекцыя Сербава трапіла ў кнігу цалкам — усе здымкі, усе каментары аўтара плюс каментары ўкладальнікаў.

**Юрась Ускоў**




## Чаму не публікуюць дзённікі Янкі Брыля?

**«Не ў найбліжэйшы час»**, — кажа дачка пісьменніка.

Па словах літаратуразнаўцаў, народны пісьменнік у запавеце папрасіў надрукаваць свае дзённікавыя запісы праз пяць гадоў пасля яго смерці. Аднак прайшло ўжо сем.

«Мелася на ўвазе, што ўсе астатнія працы мусяць быць адкрытыя праз пяць гадоў, — тлумачыць дачка пісьменніка Наталля Семашкевіч. — Іван Антонавіч усё прадугледзеў. Дзённікі асобна, яны цяпер захоўваюцца ў архівах. Мы паступова з імі працуем».

Народны пісьменнік Янка Брыль стварыў выдатную прозу («Птушкі і гнезды», Memento mori), нон-фікшн (суаўтар «Я з вогненнай вёскі»). Ён таксама быў неперасягненым майстрам лірычнай мініяцюры. Мяркуецца, што ў дзённіках талент лірыка спалучаецца з вастрынёй і шчырасцю ацэнак.

**ЮУ**

In memoriam

# Сакрат Яновіч

«Мы любім усё беларускае, але мала яго знаходзім у самой геаграфічнай Беларусі, таму «Беларусь» для нас — нейкая ідэя, мара, ідэал», — напісаў вучань Яновіча, праваслаўны святар з Беласточчыны Кастусь Бандарук.

Яновіч быў старэйшынам беларусаў Польшчы. Адкрыццё, што Яновіч у 1958—1970 гадах быў агентам спецслужбаў — сам ён пра гэта маўчаў нават пасля падзення камуністаў, аж да самай люстрацыі ў 2007 годзе, — ягонага аўтарытэту не знішчыла.

Яновіча завербавалі, граючы на ягоных пачуццях («З 21-гадовым дзецюком хітрыя польскія чэкісты гаварылі на беларускай мове і апелявалі да ягонага беларускага пачуцця...»), і з супрацы выблытаўся сам, за 20 гадоў да падзення таго рэжыму.



Калі ён разарваў супрацоўніцтва з бяспекай, у 1970 яго звольнілі з працы «за беларускі нацыяналізм». У выніку яму надоўга давялося перакваліфікавацца ў грузчыка. Але ўжо ў 1976 калегі выбіраюць яго кіраўніком клуба пісьменнікаў Падляшша. «Ён хацеў, каб беларусы загаварылі сваім голасам, гэта быў яго лозунг, — расказвае доктар гістарычных навук Алег Латышонак. — Ён вызначаў нам вялікія мэты. Але калі чалавек вялікіх мэтаў сабе не ставіць, то ён нічога не дасягне. Ён узначальваў Беларускае дэмакратычнае аб’яднанне, першую палітычную арганізацыю беларусаў Польшчы. А раней было беларускае незалежнае падпольнае выдавецтва ў 1980-я».

Яновіч звязаў тады свой лёс з апазіцыяй. Рызыкоўны выбар, які дасць яму вялікі маральны ўплыў пасля. Да яго будуць прыслухоўвацца кіраўнікі Польшчы з пакалення «Салідарнасці».

Гэта быў пісьменнік, які разумеў ролю грамадзянскай супольнасці для развіцця нацыі. Не толькі пісанне было ягоным інтарэсам. Палітычная партыя беларускай меншасці, фестывалі, выданне часопіса — ва ўсім удзельнічаў Яновіч.

А пісаў ён не ў разліку на чытача з вузкага кола, а для шырокага свету. У выніку палякі бачылі Беларусь ягонымі вачыма. Ягоная кніга «Беларусь, Беларусь» стала падставай для польскага разумення беларусаў.

Пры гэтым Яновіч быў вялікім патрыётам Беларусі і беларускай мовы, чым выклікаў шал польскіх местачковых шавіністаў. «Памёр адзін з апошніх прадстаўнікоў нашай класічнай нацыятворнай эпохі, якая сваімі каранямі сягае нашаніўскай пары ці нават яшчэ ранейшага часу, беларускага асветніцтва XIX стагоддзя», — так ахарактарызаваў Яновіча іншы беластаччанін, перакладчык Ян Максімюк.

На пенсіі Яновіч пераехаў з Беластока ў мястэчка Крынкі, у бацькоўскую хату, і штолета ладзіў там інтэлектуальныя сустрэчы. «І крынкаўская хата яго мела назву Villa Sokrates. І сам ён з мужыцкай упартасцю авалодаў англійскай мовай, чым паціху ганарыўся», — піша Сямён Букчын. «Ён вучыў нас, як выступаць перад народам, — успамінае Данута Бічэль. — Заўсёды напачатку — галоўнае. Першая фраза, першы сказ павінен быць «забойным», цвіком, а потым людзі ўжо слухаюць».

# Хто не знае, якая цяжкая праца ў няні

**Хачу расказаць вам аб сваім харошым жыцці і дастатку, пра які ў нас вельмі прыгожа гаворыцца па тэлевізары.**

Асабліва жудасна для мяне было пачуць тое, калі наш прэзідэнт гаварыў пра пенсіянераў, якія бударажаць ці бунтуюць народ тым, што стаяць каля абменнікаў і скупляюць па 5—10 долараў. А што застаецца рабіць, калі з кожным месяцам на ўсё павышаюцца цэны, трэба ж людзям хоць якую заначку зрабіць на тыя самыя лекі.

Ідуць тыя, у каго такая «ганебная» пенсія, як у мяне (маю 1 мільён 315 тысячаў), з 38-гадовым стажам, з якіх я працавала 26 гадоў у дзіцячым садку няняй. І калі я зрабіла званок у Гомель, адкуль нам налічаюць пенсію, і спытала, няўжо не будзе пераглядацца такая пенсія (павялічвацца), мне адказалі: у вас маленькі каэфіцыент, заробак быў маленькі, дык чаго вы хочаце. Скажыце дзякуй і за гэта. А колькі такіх жанчын, як я, працуюць на такіх пасадах.

Хто не знае, якая цяжкая праца ў няні, асабліва калі няспраўная сістэма сантэхнікі, адрамантавалі толькі за два гады да пенсіі, а ўсе астатнія гады маёй працы вада з кранаў ішлі халодная, ледзяная. Хто грэў кіпяцільнікам, хто хадзіў на кухню, а садзік у нас 2-павярховы, на 4 крылы, і можна ўявіць сабе, колькі вёдраў вады за дзень трэба прынесці, каб памыць посуд. А акрамя посуду, яшчэ і падлога і ўсё астатняе.

Рабілі не толькі сваю работу. Адпраўлялі, можна сказаць, у прыказным парадку і ў калгас на сена, на праполку і г.д. Карацей, рабілі жанчыны чыста мужчынскую работу, а колькі паштрафавала нянь санстанцыя, якой было усё роўна, якая ў вас сантэхніка, як вы тут працуеце. Галоўнае — усюды знайсці крайняга.

Добра, што ёсць куды напісаць і скінуць з душы груз таго, якая ганебная пенсія ў нас, бо людзі толькі адзін аднаму могуць паскардзіцца, ці, як у нас ва ўрадзе гавораць, пахваліцца, якая ў нас стабільнасць, што жанчыны, кшталту мяне, у 57 гадоў

## Маю 1 мільён 315 тысячаў пенсіі

не могуць купіць сабе крэм для твару, для рук, не гаворачы ўжо пра самае неабходнае (панчохі, бялізну).

Яшчэ выручае тое, што робім чай з траў. Думаем, як выкруціцца ў гэтым жыцці з такой пенсіяй, тым больш што ў мяне ёсць дзве ўнучкі. Мне іншым разам бывае сорамна, што я не магу ім на дзень нараджэння не тое што адзення, а нават гасцінцаў купіць.

А яшчэ жахліва, што людзі між сабой гэта ўсё абгаворваюць, а калі я стала казаць: напішу ў газету пра наша «багатае» жыццё, некаторыя з такім жахам глядзелі на мяне і гаварылі: напішаш на сваю галаву, завязуць у лес і закапаюць. Ды каму я патрэбная, кажу, толькі вось сабе хаця б душу аблегчыла, якая так набалела, што маўчаць больш невыносна.

**Тамара, Чачэрск (Гомельская вобласць)**

# Пояс за 3,5 мільёна рэальна варты такіх грошай

**Чытач адрэагаваў на публікацыю фотаздымка «Беларускі пояс за 3,5 мільёна» за сайце nn.by.**

Сам тку паясы. Даўно. І прадаю іх. Існуе сістэма разліку кошту. У кожным поясе ёсць арнаментальныя ніці. Гэта тыя, што маюць колер, у адрозненне ад нітак асновы. І кошт залежыць ад таго, колькі іх. Чым іх больш — тым пояс шырэйшы.

Адну такую нітку лічаць прыблізна за 2,5 даляра, калі яе даўжыня будзе каля трох метраў. Таму, калі ўзорных нітак будзе дзесяць, то трохметровы пояс будзе каштаваць 25 даляраў, больш за дзвесце тысячаў.

Вы не ўявіце, які гэта аб'ём работы — зрабіць такі пояс, калі не паспрабуеце выткаць нават маленькі. Гэта амаль як выткаць сапраўдны ручнік на кроснах.

Вось пра іх ніхто не здзіўляецца, чаму яны па 400 даляраў. Прычым зроблена гэта прафесійна. Я разумею здзіўленне, але трэба проста ўяўляць, колькі каштуе сапраўдная праца. Для ранішніка можна знайсці і вузейшы паясок, замовіць майстру за не такія вялікія грошы. А гэта — цэлы велізарны твор. Можна прыдрацца да колераў, але ўсё астатняе абсалютна па-майстроўску зроблена. Таму прычынаў абурацца няма.

**Андрэй**




# Беларуская глыбіня. **Пашыхтаваныя на шыбеніцах**

Піша **Павел Севярынец**.

*І стаялі людзі і глядзелі.*
*А насміхаліся разам з імі*
*і начальнікі, кажучы:*
*іншых ратаваў, хай уратуе Сябе Самога,*
*калі Ён Хрыстос,*
*выбранец Божы.*
*Лукі 23:35*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

31 студзеня 1863, праз тыдзень пасля абвяшчэння паўстання супраць Расейскай імперыі, атрад з двухсот узброеных паляўнічымі стрэльбамі і пісталетамі хлопцаў увайшоў у мястэчка Шарашова.

Паўстанцы пад кіраўніцтвам шляхціца Рамана Рагінскага ішлі з Пушчы: менавіта туды па сігнале сцякалася моладзь, падлеглая раптоўнаму рэкруцкаму набору ў заходніх губернях — так царскі ўрад разлічваў абяскровіць хваляванні, выкліканыя адменай прыгону. Ішлі як гаспадары: у адрозненне ад расейскай жандармерыі, жаўнераў і чыноўнікаў, яны былі на сваёй зямлі. І сустракалі іх як вызваліцеляў: «Нашы!..»

## У час паўстання польскасць пачала пераплаўляцца ў беларускасць

У Шарашове вітаць герояў каля касцёла сабралася ці не ўсё мястэчка. «Нашых» забяспечылі паўшубкамі, лекамі, бялізнай, ежай...

Потым былі Пружаны, таксама ўзятыя без бою (начальнік аховы ўцёк, пераапрануты селянінам), першыя сутычкі з вартавымі залогамі акупантаў, бітвы з рэгулярным войскам, далёкія рэйды ў глыбіню Беларусі (атрад Рагінскага прайшоў усё Палессе, самога шляхціца паланілі пад Туравам), дэвіз «межы Айчыны пазначым крывёю!» І паразы. І дзікае паляванне — аблавы па ваколіцах ды лясах. Арышты. Следства. Катаванні... Касцёлы, ператвораныя ў турмы.

І, нарэшце, укрыжаванні — шыбеніцы Мураўёва-вешальніка.

Наваколле Пушчы як логва паўстання Расея вырашыла выпаліць жахам. Замардаваных «інсургентаў», што некалькі месяцаў таму трыумфальна ўваходзілі ў Шарашова ды Пружаны, вешалі ўздоўж дарогі на Купічы — гасцінец на Вільню, 3 кіламетры шыбеніцаў.

Каб нават у астатніх сутаргах змучаныя беларусы не даставалі нагамі роднай зямлі. І забаранілі здымаць — пад страхам смерці.

Ужо потым, калі шлях ад смуроду зрабіўся нясцерпным, здранцвелыя трупы сцягвалі ў ямы пры дарозе — па дзесяць-пятнаццаць у кожную.

Праз 150 гадоў такім жа ціхім сінім вечарам па талым снезе, па якім паўстанцы калісьці ўваходзілі ў Шарашова, на гэтай дарозе сабраліся людзі з бліжэйшых Пружанаў, Малеча, Бярозы... Сабраліся, каб нарэшце запаліць на знак памяці свечкі ад Шарашова да самых Купічаў. А пасля — на канцэрт Андрэя Мельнікава, які прыехаў у Пружаны спяваць свае найлепшыя балады.

Тыя, хто тады перамог, — чамусьці не святкуюць. Ані дату далучэння беларускіх земляў да Расеі, ані дзень народзінаў Мураўёва, ані дзень смерці Каліноўскага.

Але нашчадкі тых, каго вешалі, — памятаюць.

Дарога з Шарашова на Купічы цяпер асветленая агнямі — каб Богу згары быў бачны той шлях. Жыць жыццё сярод страху, дзеля некалькіх месяцаў волі у безнадзейнай вайне, выступіць — і памерці...

А можа, і праўда паўстанні 1830—1863 гг. насамрэч былі правакацыямі царскага шэфа жандараў, Бенкендорфа, ды ягоных наступнікаў, якім карцела адабраць маёнткі ў беларускіх магнатаў ды шляхты?

Няўжо дваццацігадовыя, узброеныя дубальтоўкамі ды косамі супраць рэгулярнага, шматкроць большага войска, ды з гарматамі, не разумелі, што паўстанне асуджана?

Тыя, хто возьмуць меч, ад мяча і загінуць.

Але — колькі святых, ды і сам апостал Пётр, за меч усёткі хапаліся, гатовыя аддаваць сваю душу за іншых!

Сумленны беларус, народжаны ў час Каліноўскага, мог выбраць шлях Дастаеўскага. Служыць імперыі, каб як мага глыбей ператвараць яе знутры праўдай і прыгажосцю. Мог выбраць шлях Міцкевіча — выгнанне і змаганне за волю на чужыне. Шлях Баброўскага, урэшце, спярша ўніята, а потым праваслаўнага — упакорыцца сіле, але ціха і настойліва ратаваць людзей вакол сябе...

Гарачыя маладыя сэрцы выбралі паўстанне. І вось пытаюся самога сябе: ці не ёсць дарога на Купічы, устаўленая шыбеніцамі, шляхам да самагубства?

Ключавая падзея эпохі беларускага адчаю, паўстанне насамрэч было вялікай ахвярай. Да гэтага вузкая, шляхецкая патрыятычная свядомасць раптам пашырылася да ўсенароднай, незалежніцкай. Польскасць пачала пераплаўляцца ў беларускасць. А разгром паўстання абудзіў у тых, хто застаўся ў жывых, пякучае жаданне знайсці выйсце. Пераможнае. І вось Багушэвіч (сам колішні паўстанец, паранены, доўга хаваўся ва Украіне) бярэцца абараняць сялянаў у судах, выдае хрысціянскія вершы і распачынае Адраджэнне. Хвалю падхопліваюць Дунін-Марцінкевіч, Эпімах-Шыпіла, народнікі-грамадоўцы і ксяндзы з БХД...

І былі і БНР, і Рэспубліка Беларусь, і вуліцы Кастуся Каліноўскага.

Сённяшняя і будучая наша незалежнасць аплочаная ў тым ліку і крывёй каліноўцаў. Тых, хто ў апошнім шыхце паўз дарогу на Купічы выцягваўся, курчыўся і не даставаў нагамі да сваёй зямлі, чые вочы вылазілі з арбітаў, каб у апошні міг убачыць неба, са сцятымі ззаду намёртва, да крыві, крыж-накрыж рукамі, са здушаным горлам, адкуль так і не выбухне крык волі, — юных, моцных, скалечаных, гатовых ірвануць з астатніх сілаў...

За Ім.

За Асуджаным, Катаваным і гэтак жа Распятым на дрэве з перакладзінай, у спазмах паміж небам і зямлёй — каб збавіць кожнага з нас Сабою.

*Куплін*

# Наша асяроддзе: каго яно выхавае?

Піша архітэктар **Ігар Байцоў**.

Здаўна людзі імкнуліся свае пабудовы рабіць не толькі зручнымі і трывалымі, але і эстэтычна прывабнымі, упісанымі ў жыццёвую прастору. Сакрэтам прыгажосці яны вучыліся ў прыроды. Аблічча паселішчаў здаўна вызначаліся мясцовымі ландшафтамі, кліматычнымі ўмовамі, будаўнічымі матэрыяламі, культурнымі асаблівасцямі насельніцтва. Са спалучэння архітэктуры і прыроды і паўставала разуменне прыгажосці родных мясцін, якая нараджала любоў да радзімы, адчуванне пераемнасці і адказнасці за яе лёс перад нашчадкамі.

Кожнаму будынку продкі імкнуліся надаць выгляд, прыемны для вока землякоў і варты занятага месца. І паны, і сяляне, і гараджане рупіліся, каб іх жытло сведчыла аб дабрабыце, розуме і гусце гаспадароў. Нават бедныя сялянскія хаты з гаспадарчымі пабудовамі спалучаліся ў гарманічны вобраз вёскі. І там была магчымасць выявіць народныя мастацкі густ, творчую манеру асобных майстроў і ў прапорцыях, і ў дэталіроўцы элементаў. Асабліва годны і прыгожы з усіх бакоў выгляд надавалі высокім пабудовам, бачным здалёк.

### Пад эстэтыкай асяроддзя ў нас разумеюць адрамантаванасць

Але ў апошнія сто гадоў у беларускім гарадскім і сельскім ландшафце адбываецца мноства змен да горшага. Ваенныя ліхалецці, беднасць, жыллёвыя праблемы, казённыя метады дзяржаўнага гаспадарання — усё гэта прынесла вялікія страты асяроддзю і прывучыла беларусаў да незацікаўленасці выглядам атачэння, у якім яны жывуць. Губляюцца прыкметы нацыянальнай і рэгіянальнай ідэнтычнасці. Будуюць многа, але пры гэтым адбываецца дэгуманізацыя і эстэтычная прымітывізацыя асяроддзя. Новае будуюць без павагі да раней пабудаванага.

Абыякавасць гарадскіх жыхароў да эстэтыкі асяроддзя і няўменне ўспрымаць архітэктуру як каштоўнасць выявіліся, напрыклад, калі ўлады дазволілі стыхійна шкліць балконы шматкватэрных дамоў. Многія спецыяльна свае тры акенцы ці лоджыю шкляць так, каб яны былі як найменш падобныя да суседскіх. Гэта надае дамам прыстойнай архітэктуры трушчобны выгляд.

Такі самы падыход пануе пры размяшчэнні на першых паверхах прыватных крам і іншых установ. Разнастайныя ўваходы з казыркамі і ганачкі, перафарбоўка асобных лапікаў сцен супярэчаць агульнай кампазіцыі і спрачаюцца міжсобку. Груваcткія сафіты для падсветкі фасадаў нявечаць іх дзённы выгляд. Пры ўцяпленні фасадаў збядняецца іх аблічча, каштоўныя дэталі патанаюць у цеплаізаляцыі... Ужо цэлае пакаленне беларусаў з першых сваіх дзён жыве ў такім сапсаваным асяроддзі і лічыць яго нармальным. Пад эстэтыкай асяроддзя ў нас разумеюць толькі чысціню і адрамантаванасць.

Пэўны інтарэс да архітэктуры пачаў абуджацца ў тых, хто мае магчымасць будаваць уласныя катэджы. Але пра агульную гармонію выгляду катэджных пасёлкаў таксама ніхто не думае. Да таго ж у беларускім катэджным будаўніцтве няма ніякіх прыкмет мясцовага стылю.




Сучасны від на Траецкае і «Чыжоўскі» дом.



Груваcткія сафіты для падсветкі фасадаў нявечаць іх дзённы выгляд.

Вядома, начальства ўлічвае неабходнасць прадстаўнічай якасці мясцін, якія наведваюць замежныя госці і турысты. Забароненая «самадзейнасць» на фасадах уздоўж магістральных вуліц ды на будынках, што трапілі ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Але гэта кропелька ў моры!

### «Застылую музыку» замаўляюць нувабышы

У свеце ёсць мноства гарадоў, дзе ў гарманічным спалучэнні зберагліся забудовы розных эпох. Яны — нібы падручнікі для жыхароў па архітэктуры, эстэтыцы, гісторыі краіны, якія ўздзейнічаюць на свядомасць з маленства. Наша ж асяроддзе — гэта падручнік, з якога большасць старонак павырываная, а тыя, што засталіся, — сплямленыя і пакамечаныя. «Падручнік» вучыць: дазваляецца ўсё, на што ёсць грошы і ўлада. Насельніцтва лічыць, што клопат пра аблічча жыццёвага асяроддзя яго не датычыць, што на гэта ёсць начальства і спецыялісты. Але ўдзел неабыякавай часткі грамадства вострa неабходны, калі мы хочам, каб краіна займела годны па еўрапейскіх мерках выгляд.

Фактары і абставіны, што дапамагалі гарманізаваць асяроддзе ў мінулым, цяпер страчаны. Архітэктурнае праектаванне юрыдычна існуе ў статусе прадпрымальніцтва і вымушана кіравацца этыкай бізнэсу. Цяпер гэта сфера абслугоўвання, у якой вырашальны голас мае той, хто замаўляе «застылую музыку».

Калі раней усім былі вядомыя імёны заказчыкаў і аўтараў-архітэктараў, дык цяпер кардынальныя змены ў аблічы гарадоў ажыццяўляюцца асобамі са свядомасцю наймітаў за грошы багацеяў, якія эстэтычных вынікаў гэтых змен нават не ўбачаць. Імёны архітэктараў вялізарных пабудоў, што пачалі катастрафічна скажаць цэнтр Мінска, невядомыя і нецікавыя грамадству. Не дзіўна: шэдэўры тут не з'яўяцца. Сучасныя будаўнічыя матэрыялы пазбаўлены выразнасці, не здольныя забяспечыць дасканалыя суадносіны формаў, вытанчанасць і разнастайнасць у дэталіроўцы.

Пры абыякавасці насельніцтва заказчык можа будаваць самае таннае, прымітыўнае, не лічыцца з гісторыяй і эстэтыкай. У грамадскай свядомасці паняцце «гармонія асяроддзя» не ўспрымаецца як неабходная каштоўнасць, як нацыянальны набытак, які неабходна берагчы і памнажаць. Гэтае паняцце фактычна замоўчваецца. Сучасны беларус не мае ні часу, ні нагоды прыглядацца да зменаў у жыццёвай прасторы і самастойна ацэньваць іх. А СМІ часта пішуць пра новабудоўлі спрошчана, аднабакова, не даючы яснай ацэнкі. Падзеная так інфармацыя легітымізуе ў свядомасці наступ навабудаў, які мы назіраем апошнім часам.

### Прапаганда эгаізму праз архітэктуру

Інфармацыя СМІ не дае беларусам пабачыць шырокі горадабудаўнічы кантэкст, акцэнтуючы ўвагу на асобных урыўках, фрагментах і аб'ектах. Беларусам прапануюць ганарыцца тым, што будзе ўзведзена нешта сучаснае, надзвычай высокае альбо падобнае да нейкага бусла ці магніта, быццам гэта аўтаматычна палепшыць аблічча горада. Такія словы як «архітэктурнае майстэрства», «творчае дасягненне» ці, наадварот, «горадабудаўнічая памылка», выключаны з лексікона СМІ. У прапагандзе прымітыўных поглядаў на архітэктуру актыўна ўдзельнічае і вытворчасць сувеніраў убогага мастацкага ўзроўню.

На жаль, драматычная тэма разбурэння гарадскога аблічча груваcткімі навабудамі не знаходзіць месца ў выяўленчым мастацтве. Створана мноства прыхарошаных выяў беларускіх гарадоў. Па сутнасці гэта ўсё той жа сацыялістычны «рэалізм». Я ўпэўнены, што Беларусі трэба мастацтва, якое адлюстроўвае сучаснасць ва ўсёй яе супярэчлівасці. Адна таленавітая карціна тут можа быць карыснейшая за многія словы.

Ва ўсім свеце на аблічча гарадоў моцна ўздзейнічае бізнэс. Для дзялкоў культурна-гістарычная ўнікальнасць, эстэтыка асяроддзя — толькі перашкоды. Навука і тэхніка далі людзям магчымасць хутка будаваць высокія дамы мудрагелістай формы з зіхоткімі фасадамі. Каб тэхнічныя дасягненні не нарабілі бяды, у многіх краінах вучацца абмяжоўваць наступ новага на ўжо існае, якога гэтае сучаснае не ў стане паўнавартасна замяніць. Трэба і нам, беларусам, тэрмінова вучыцца абмяжоўваць карыслівыя памкненні бізнэсу.

Кожнае асяроддзе вучыць і выхоўвае нават на ўзроўні падсвядомасці. Але чаму навучыць і каго выхавае асяроддзе наша, беларускае? Ужо няма амаль ніводнага кутка, які б меў натуральны гістарычны, не скажоны выгляд. Разумныя і гуманныя прынцыпы горадабудаўніцтва, якімі імкнуліся кіравацца беларускія архітэктары ў XX стагоддзі — сумаштабнасць забудовы, зялёныя зоны ў цэнтрах гарадоў, азелянёныя двары, — фактычна адкінуты. Уціснутыя пішчом у існую забудову гмахі выпраменьваюць пагарду да спадчыны і да навакольных жыхароў. Сваім выглядам яны ўслаўляюць культ грошай і сілы, вучаць, што яны вышэйшыя за законы.

## Прымітыўнае асяроддзе разбурае веру ў высокія магчымасці чалавека »

Перад вачыма маладога пакалення — безліч прыкладаў антыэстэтычных уздзеянняў на жыццёвую прастору, якія застаюцца беспакаранымі. Негарманічнае, прымітыўнае, грубае асяроддзе разбурае веру ў высокія магчымасці чалавека, прыніжае яго памкненні, прапагандуе эгаізм, навязвае прымітыўную сістэму каштоўнасцяў у якасці нормы, перашкаджае нараджэнню патрыятычных пачуццяў.

Эстэтычная гармонія асяроддзя... У інтарэсах будучага неабходна павярнуць беларусаў тварам да гэтай праблемы.



Кожнаму будынку продкі імкнуліся надаць выгляд, прыемны для вока землякоў і варты занятага месца.



Пры абыякавасці насельніцтва заказчык можа будаваць самае таннае, прымітыўнае.

## ФУТБОЛ

### «Фенербахчэ» — БАТЭ.

**21 лютага ў Стамбуле** пройдзе гульня ў адказ 1/16 фінала Лігі Еўропы. Жыўцом ніхто з беларускіх заўзятараў, як і турэцкіх, матч не пабачыць. УЕФА прыняў рашэнне праводзіць матч без гледачоў. Першая сустрэча зафіксавала вынік 0:0. Трансляцыя на «Беларусь-2» а 22:50.

## КАНЦЭРТЫ

### Ultra-Music Awards-2012

**22 лютага а 19-й у «Цэнтры» (Кастрычніцкая пл., 1)** — Ultra-Music Awards-2012. Бяруць удзел «Адыс Абеба», Akute, Irdorath, Паліна Рэспубліка, Plum Bum.

### The UNB

**21 лютага а 20-й у «Гудвіне»** — канцэрт гурту The UNB.

### Князь Мышкін

**21 лютага а 19-й у «Доме Фішэра» (пр.Незалежнасці, 84 а)** — «Князь Мышкін».

### Паліна Рэспубліка

**26 лютага а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт Паліны Рэспублікі.

### Мы любім Бітлз

**24 лютага а 18-й у «Мулен Руж» (Кальварыйская, 1)** — трыб'ют-фэст «Мы любім Бітлз». Бяруць удзел The Apples, Artefact, Flat...

### Да 100-годдзя Сяргея Грахоўскага

**27 лютага а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — тэатр аднаго актора «Зніч» з праграмай, прымеркаванай да 100-годдзя Сяргея Грахоўскага.

### Алесь Камоцкі

**25 лютага а 19-й на сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі** — беларускі музыка і кампазітара Алесь Камоцкі сыграе «Канцэрт для сяброў».

## ВЫСТАВЫ

### Кастусь Каліноўскі

**27 лютага а 17-й на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13)** — адкрыццё мастацкай выставы, прысвечанай юбілею Кастуся Каліноўскага.

### Уладзімір Цэслер «Практыка рынкавага рэалізму»

**Да 2 сакавіка ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** працуе выстава «Практыка рынкавага рэалізму» Уладзіміра Цэслера. Выстаўка прадстаўляе жывапіс, скульптуру, артаб'екты У.Цэслера і іншыя праявы ягонай крэатыўнасці і схільнага да парадоксаў мыслення.

### Мае праведнікі

**Да 3 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе фотавыстава Анатоля Клешчука «Мае праведнікі», прысвечаная беларусам, якія ў гады Другой сусветнай вайны ратавалі габрэяў ад фашыстаў.

### «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне

**Да 25 лютага ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне». На экспазіцыі прадстаўлены афішы, праграмы, эскізы, макеты дэкарацый і касцюмы да спектакля, а таксама асабістыя рэчы Паўліны Мядзёлкі, першай выканаўцы ролі Паўлінкі.

## ТЭАТРЫ

### 21 лютага

**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Востраў Сахалін»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 22 лютага

**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»
**Оперы і балета** — «Спячая прыгажуня»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — Translations

### 23 лютага

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Купалаўскі** — «Хам»

### 24 лютага

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Марныя перасцярогі»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 25 лютага

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»

### 26 лютага

**Оперы і балета** — «Марныя перасцярогі»
**Беларускай драматургіі** — «Чарнобыльская малітва»

### 27 лютага

**Купалаўскі** — «Беларусь у фантастычных апавяданнях»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»

### 28 лютага

**Оперы і балета** — «Анюта»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»

### 1 сакавіка

**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»



### «Свет дзяцінства»

**Ад 20 да 23 лютага ў выставачным павільёне «Белэкспа» (Я. Купалы, 27)** пройдзе выстава-кірмаш «Свет дзяцінства». На ёй: цацакі, школьныя прылады, падручнікі і дапаможнікі, тавары для будучых мам, спартыўны інвентар і музычныя інструменты.






### Чэмпіянат свету па велатрэку

**20—24 лютага ў «Мінск-Арэне»** пройдзе сусветнае першынство па велатрэку. У спаборніцтвах возьмуць удзел амаль 500 спартоўцаў. Білет на адзін дзень спаборніцтваў будзе каштаваць ад 100 да 200 тысяч.

## КІНО

### Калейдаскоп любові

**Калейдаскоп любові** (360)
Вялікабрытанія — Аўстрыя — Францыя — Бразілія, 2012, каляровы, 110 хв.
**Рэжысёр:** Фернанду Мэйрэліш
**Ролі выконваюць:** Луцыя Сіпосава, Джуд Лоў, Габрыела Марчынкова, Морыц Бляйбтрой, Дынара Друкарава, Уладзімір Удавічэнкаў, Рэйчэл Уайз, Энтані Хопкінз
**Жанр:** Драма
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

У Лондане, Парыжы, Вене розныя людзі пакутуюць ад спустошанасці і шукаюць кахання. Іхнія лёсы перакрыжоўваюцца. Бразільскі рэжысёр Фернанду Мэйрэліш — рэдкі госць на нашых экранах, ягоны «Горад Бога» быў увогуле забаронены для паказу. Карціна «360» зробленая як модная калісьці мяшанка прыватных гісторый.

У фільме, пераназваным «Калейдаскопам любові», героі абіраюць: быць сумленным ці пайсці слізкай дарожкай. Джуд Лоў спрабуе захаваць сям'ю, што развальваецца. Энтані Хопкінз клапоціцца пра выпадковую пасажырку, а дзесьці побач швэндаецца адпушчаны на выпраўленне маньяк. Медсястра фліртуе з дантыстам над ротам пацыента, а кіроўца расейскага крымінальніка марыць змяніць прафесію.
Адзінае глабальнае ў фільме — англійская мова. Добрыя персанажы яе вучаць. Дрэнныя — аддаюць перавагу расейскай.

**Андрэй Расінскі**



# «Даводзіцца працаваць з гаспадарамі, а не з жывёламі»

Рэпартаж з прыватнай **ветэрынарнай клінікі.**

Свойскіх жывёл цяпер песцяць і любяць, адзяваюць, фарбуюць і робяць модныя стрыжкі. Роля ветэрынара значна ўзрасла. Мы завіталі ў мінскую прыватную клініку «Доктат Вет» і пабачылі на ўласныя вочы, як яна функцыянуе. Пра чорны заабізнэс, пакусаныя рукі і зачаткавы стан беларускай ветэрынарыі расказвае ветэрынар Юрый Вараб'ёў.

### «Мы будзем змагацца за яе жыццё да апошняга»

Я заходжу ў вялікую залу. Уздоўж сцен стаяць крэслы і канапы, апарат з кавай, шафа з кормам і два сталы з рэкламнымі буклетамі. Калі вы нечакана вырашыце ўпрыгожыць свайго сабаку ці котку ўзорамі, зрабіць ім каскі, эпіляцыю ці стрыжку, прафесійны грымёр прыйдзе вам на дапамогу. На сценах — плакаты і абвесткі. Вочы спыняюцца на рэкламе гатэля для жывёл, якім вы можаце скарыстацца, калі з'явіцца неабходнасць кудысьці з'ехаць, а чацвераногага сябра няма на каго пакінуць.

Людзей тут пакуль няшмат. З аднаго боку сядзіць усхваляваная жанчына з кароткай стрыжкай, прыпухлымі ад слёз вачыма, якая нервова гартае часопіс, а яе муж адлічвае патрэбныя 5 тысяч, каб замовіць каву ў апараце. Другімі наведнікамі аказалася сям'я з Брэста. Каля іх на падлозе сядзіць дагледжаны чорны скотч-тэр'ер з паголенай з аднаго боку шыяй. Першае ўражанне падманлівае — сабака дажывае апошнія дні... «Мы кожныя тры дні ездзім з Брэста ў гэтую клініку. Мясцовыя ветэрынары даўно раілі ўсыпіць нашу дзяўчынку, але мы вырашылі, што будзем змагацца за яе жыццё да апошняга. У яе злаякасная пухліна, якую ўжо нельга выдаліць, а ў жываце збіраецца вадкасць, якую кожныя тры дні адпамлоўваюць. Усе вены абколатыя, жывога месца на ёй не засталося... Але яна хоча жыць, і мы робім усё дзеля гэтага», — апошнія словы гаспадыня кажа,



Доктар Юрый Вараб'ёў.

ледзь стрымліваючы слёзы. Бярэ сабаку на рукі і пачынае цалаваць.

Жанчына, што сядзіць у іншым куце, слёз не хавае. Яе бульдогу робяць складаную аперацыю. «Я ўпотай зазірнула ў шчыліну паміж дзвярыма, ён там ляжыць прывязаны, пад наркозам, у яго язык вісіць. Бедны, бедны мой хлопчык...» — зноў заплакала яна. Муж падсеў бліжэй і пяшчотна абняў за плечы.

### «Жывёл лячыць цяжэй, чым людзей»

У залу заходзяць іншыя кліенты. У дарожных торбах і заплечніках, за пазухамі і ў адмысловых боксах яны прыносяць сваіх жывёл. Медсястра па чарзе выклікае пацыентаў. Гаспадары хвалююцца больш, чым самі жывёлы. Я нібыта знаходжуся ў дзіцячай паліклініцы, дзе матулі і татулі суцяшаюць сваіх дзетак. Яны ўздрыгваюць, калі ў суседнім кабінеце нехта вые ці гучна мяўкае.

Нарэшце мяне запрашаюць у кабінет Юрыя. Гэта трыццацігадовы малады светлавалосы мужчына ў сіняй спецвопратцы. Светлыя, добрыя вочы і мяккі голас адразу прыцягваюць.

«Складаная аперацыя была. Не адну гадзіну доўжылася», — тлумачыць ён. «А колькі звычайна жывёл праз вас праходзіць у дзень?» — «У сярэднім ад 20 да 50».

Я з цікавасцю пачынаю аглядацца. Кабінет у доктара вялікі. Перагародка падзяляе рабочую зону і зону прыёма, дзе стаяць два сталы, на якіх аглядаюць жывёл, каля іх — шафа з лекамі і шпрыцамі.

«Тут я працую з 2008, — пачынае ён аповед. — Калісьці ў майго таты былі пчолы, і ён хацеў, каб у яго быў уласны ветэрынар. А мне заўсёды хацелася лячыць катоў і сабак. У выніку паступіў у Віцебск». — «А якія пацыенты больш складаныя: жывёлы ці людзі?» — «Жывёл лячыць цяжэй. Чалавек можа сказаць, што яму баліць, а жывёла — не. Да таго ж, у сучаснай медыцыне вялікая колькасць розных дыягнастычных даследаванняў. А ў ветэрынарыі шмат што не даследавана. У звычайнай медыцыне ёсць вузкая спецыялізацыя дактароў, а тут ты ўніверсальны. Цяпер у нас адбываецца ўвядзенне вузкай спецыялізацыі. Я афтальмолаг. У нас гэта сфера амаль не развітая. Абсталяванне каштуе вельмі дорага, дый калегі не заўсёды разумеюць значнасць гэтага». — «А ў нас вучаць ветэрынараў-афтальмолагаў?» — «Не, гэта практыка наведвання семінараў і калегаў, напрыклад, у Пецярбургу».

«Якія асноўныя патрабаванні да чалавека, які будзе працаваць з жывёламі?» — «Галоўнае — мець добрую стрэсаўстойлівасць. Часам даводзіцца працаваць не з жывёламі, а з іх гаспадарамі. Некаторыя хваробы спалучаныя са смяротным сыходам і патрабуюць вялікай вытрымкі, каб растлумачыць гэта гаспадарам. Многія прыязджаюць экстранна, яны ў паніцы. Псіхалагічна трэба людзей разгружаць» — «А што з раскладам працы?» — «Мы працуем пазменна. Тры праз тры, ёсць начныя дзяжурствы. Уначы прывозяць шмат жывёлаў — ДТЗ, падзенні з вышыні, рваныя раны...»





Няўдалы прыжок з канапы. Чыхуахуа звычайна трапляюць у клініку з паламанымі лапамі.



Бульдог яшчэ не адышоў ад наркозу і недарэчна раскінуўся на каталцы.

### Хто баіцца больш?

У дзверы стукаюць, у кабінет няўпэўнена заглядвае жанчына: «Можна?»

Доктар запрашае яе зайсці, а сам выходзіць на некалькі хвілін. Жанчына дастае з торбачкі пярэстую котку. «Ведаеце, я так баюся, вельмі баюся», — кажа мне ўсхваляваная жанчына. «Што здарылася?» — «Ды вось, на стэрылізацыю прывезла свайго чалавека». Я не разумею, якога яшчэ чалавека? Потым высветлілася, што «чалавекам» жанчына называе сваю котку — яна знайшла яе ледзь жывой зімой каля дома і выгадавала.

«Я б ніколі з ёй гэтага не зрабіла, але яна пачала сікаць у боты. Муж сказаў, што трэба», — скардзіцца жанчына. Тым часам вяртаецца доктар. «Зараз мы зробім укольчык, і яна засне. Не хвалюйцеся», — падбадзёрвае ён. Пушысты звер спалоханымі вочкамі сочыць за тым, як доктар падносіць страшную іголку. Што цікава, жывёлы падчас наркозу засынаюць з расплюшчанымі вачыма.

### «Чалавек, які займаецца заабізнэсам, можа не працаваць»

Наша размова перапыняецца. У кабінет увозяць «вялікага мядзведзя» — бульдога, якому рабілі складаную аперацыю, і ён яшчэ не адышоў ад наркозу. «Ён яшчэ каля сутак будзе сам не свой. Гэта нармальна», — супакойвае ветэрынар. Гаспадыня гладзіць свайго сабаку, цалуе лапы і пяшчотна абдымае. Стомленая і заплаканая, яна выглядае як матуля, якая страціла ўсе сілы, чакаючы сына пасля сур'ёзнай аперацыі.

Бульдог тым часам з неразуменнем глядзіць, што адбываецца навокал. Нібыта п'яны, ён не можа кантраляваць свае рухі. Юрый дае парады, як даглядаць сабаку, пасля чаго на галаву бульдога насоўваюць адмысловы пластмасавы каўнер, каб той не пашкодзіў швы на мордзе, і асцярожна вязуць на каталцы да машыны.

«У мяне ў самога, дарэчы, кот і котка жывуць. Узяў аднаго на лецішчы, а другога ў вёсцы. Але кот цяпер можа каштаваць больш за карову, якая дае малако», — смяецца Юрый.

### «У студэнтаў адбіваюць ахвоту да ветэрынарыі»

Доктар сыходзіць у аперацыйную. У зале чакання маладая аўчарка, пакуль яе гаспадар распранаўся, паспела збегчы ад яго і нарабіць крыку сярод катоў. Яна была такой спрытнай, што лавілі яе ўтрох. Пасля інцыдэнту парушальніца парадку выслухала настаўленне ад гаспадара, салодка пазяхнула і заснула на ягоных нагах.

«Ніякай рамантыкі ў вас тут, — кажу Юрыю, які вярнуўся ў пакой. — Не шкадуеце, што абралі такую прафесію?» — «Ніколі не шкадаваў. Я два гады праходзіў практыку на свінагадоўчым комплексе і год на птушкафабрыцы. Паралельна лекаваў жывёл маіх сяброў і знаёмых. Гэта сапраўды не рамантыка. Рамантычна — гэта дзесьці ў новай Зеландыі ці калі глядзіш Discovery ці Animal Planet. А тут па-іншаму».

«Ветэрынар — гэта не белы халат і чысты абутак. Калі мы кажам пра сельскую гаспадарку, то гэта, мякка кажучы, бруд. У студэнтаў пасля размеркавання спрэс адбіваюць ахвоту да ветэрынарыі. Яны бачаць бруд і гной і больш не хочуць звязваць сваё жыццё з гэтым. Калі чалавек гатовы працаваць і жыць у такіх умовах, то ён далёка пойдзе. Гэта вельмі моцна загартоўвае. Як армія».

**Вольга Гарапучык**




Абвешчаны пераможцы 56-га конкурсу World Press Photo. Чэн Вэй Сэнг (Малайзія) — першы прыз у катэгорыі «Асобны спартовы здымак». На фота жакей на заканчэнні небяспечнага забегу быкоў на выспе Заходняя Суматра ў Інданезіі.



Сабор Нотр-Дам-дэ-Пары падае ў суд на актывістак руху Femen — адну ўкраінку і сем француженак — пасля акцыі, зладжанай ў саборы ў гонар адрачэння Папы. Феменкі пранiклі ў сабор, раздзеліся і пачалі выкрыкваць лозунгі супраць царквы.




Фанаты іспанскага «Алавеса» падтрымалі мінскі «Партызан». «Алавес» — клуб з краіны баскаў з амаль стагадовай гісторыяй, які ў 2001 годзе гуляў у фінале Кубка УЕФА, але саступіў там «Ліверпулю». Фанаты «Алавеса», як і «Партызана», трымаюцца левых поглядаў.




У дзень падзення Чэлябінскага метэарыту ў Магілёўскім раёне паваліласяводанапорная вежа. Пабудаваная яна была ў 2010 годзе.

## Анекдоты і жарты

* * *

Учора шэф паслаў нас збіваць ледзяшы. Адзін лядзяш упаў на яго машыну. Хоць ён і прыпаркаваў яе за 70 метраў ад будынка.

* * *

Па чутках, беларускія хакеісты запатрабавалі ў федэрацыі 500 тыс. даляраў прэміяльных, калі выйграюць турнір у Даніі і трапяць на Алімпіяду ў Сочы. Федэрацыя хакея вырашыла зэканоміць грошы і заплаціла 100 тыс. славенцам.

* * *

— Алё, гэта пажарныя?
— Так.
— Дапамажыце мне адсюль вылезці.
— А дзе вы?
— У Фэйсбуку.

* * *

Сёння ў краме ў мяне папрасілі пашпарт, калі я купляла цыгарэты.

Але потым я ўсміхнулася і мне сказалі: «Не трэба».

* * *

— Спецыялісты кажуць, што беларусы сталі жыць лепш.
— А людзі сцвярджаюць, што нічога не адчуваюць.
— Але ж яны не спецыялісты.

* * *

Акцыя ў супермаркеце: «Толькі два дні! Пры куплі дзесяці бляшанак кансерваванага тунца — галоднае кацяня бясплатна!»

* * *

Лукашэнка зробіць як Папа. Сыдзе ў адстаўку сам. У 85 гадоў.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вільня.** Адбыўся ў зале літоўскага таварыства «Рута» першы беларускі маскарад. Гулялі вясёла да 4 гадзін ночы; было колькі цікавых масак. Народу сабралася шмат, нягледзячы на тое, што ў гэты дзень было аж шэсць маскарадаў, якія ўстраівалі розныя клубы і таварыствы.

**«НН». №8. 1912.**

**«Духоўнасці» стала болей.** Выйшла ў свет беларускамоўнае выданне кнігі прэзідэнта Туркменістана Сапармурата Ніязава «Рухнама» («Духоўнасць»). Пераклалі кнігу Мікалай Сільчанка, Анатоль Бутэвіч, Анатоль Кудравец, Леанід Дранько-Майсюк. Не з арыгінала.

**«НН». №7. 2002.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднoўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8070. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 19.02.2013.
Замова №682.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12